

# Краязнаўчая газета

№ 28 (45)

Ліпень 2004 года

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:

БФК вылучае: на Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь – *стар. 2*

Спадчына: слаўная мінуўшчына палаца ў Манькавічах – *стар. 3*

Рэгіён: выдатныя мясціны Віцебшчыны – *стар.5*

Археалогія: раскопкі абарончага вала Мірскага замка – *стар. 7*



# Мастацтва, навука, музыка – у Міры

***У замкавым комплексе «Мір», філіяле Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, была наладжана выстава твораў мастакоў Леаніда Дударэнкі, Уладзіміра Сулкоўскага, Віктара Баранцава, Леаніда Гандыша «Прысвячэнне Міру». Праходзіла яна ў рамках II Беларускага фестывалю мастацтваў «Мірскі замак-2004». У экспазіцыі былі працы, якія так ці інакш адлюстроўваюць панараму старажытнага пасёлка, а найперш – славутага помніка дойлідства – Мірскага замка.***

Мастацтва, навука, музыка, спалучэнне прыроднага асяроддзя і архітэктуры стварала пейзаж высокай мастацкай каштоўнасці таго часу ў такім міжкультурным дыялогу. Гэтую думку падкрэслілі на адкрыцці навукова-практычнай канферэнцыі «Мірскі замак як культурна-гістарычны феномен XV–XX стагоддзяў. Новыя даследаванні» мастацкі кіраўнік фестывалю, народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар Міхаіл Фінберг і старшыня райвыканкама І. Шматко, які адзначыў, што мы ганарымся тым, што жывём у гэтых гістарычных мясцінах, куды штогод прыбывае больш за 70 тысяч турыстаў. Выказаў надзею, што з цягам часу Мірскі замак будуць не толькі наведваць турысты. Ён увойдзе ў сэрца і памяць кожнага беларуса, бо гэта цудоўнае месца сілкуе кожнага чалавека добрай энергіяй. Начальнік упраўлення культуры Гродзенскага аблвыканкама Л. Кадзевіч зазначыла, што культура Гродзеншчыны – цудоўная і найбольш адметная ў сваім асяродку, таму неабходна спасцігаць яе асаблівасці. Дзеля гэтага і ладзяцца фестывалі. Мастак Л. Дударэнка, які ўпершыню ўдзельнічаў у пленэры ў Міры, сказаў, што «мастакі з вялікім задавальненнем стварылі гэтыя палотны. Думаю, што серыя карцін аб Міры будзе працягвацца і што такая выстава павінна ісці па Беларусі, пачынаючы з Мінска і далей...»

Тайны ўзнікнення, гісторыя існавання і перспектывы развіцця Мірскага замка прааналізаваў загадчык аддзела рэканструкцыі і рэстаўрацыі унітарнага прадпрыемства «Мінскпраект» Дз. Бубноўскі. Ён зрабіў спробу асацыятыўнага асэнсавання забудовы і развіцця замка ў гісторыі, адзначыў, што ў архітэктурным абліччы замка знайшлі ўвасабленне розныя напрамкі і стылі. Валодаў замкам князь Ільініч Юры, Радзівіл Сіротка і Радзівіл – Пане Каханку, валодаў Вітгенштэйн і князь Мірскі – Святаполк. Замак гарэў, разбураўся, прыходзіў у заняпад і аднаўляўся зноў. Побач размяшчаліся алеі, «італьянскі сад-парк», сажалка. Пэўныя змены ў прыродным ландшафце і нават архітэктурным аздабленні замка адбываліся разам з уладальнікамі гэтых зямель. Але найбольш цяжкім у жыцці замка быў перыяд XIX – XX стагоддзяў. Што тычыцца будучыні Мірскага замка, то і тут замак меў некалькі прыбліжэнняў, часам нават супярэчлівых, да жыцця і яго адраджэння. Апошняя з распрацовак, якой паспрыяла Міністэрства замежных спраў Беларусі, зводзілася да таго, што замак павінен выкарыстоўвацца не толькі як месца музеефікацыі і міждзяржаўных сустрэч дэлегацый, канферэнцый, дзе павінен быць створаны міжнародны канферэнц-цэнтр. Ёсць прапановы нават па размяшчэнні гасцінічных нумароў ва ўсходнім крыле палацава-замкавага комплексу. Пэўнае развіццё сферы турыстычных паслуг і сацыяльнай інфраструктуры ў г.п. Мір плануецца ў рамках стварэння СЭЗ «Нясвіж – Мір», якія маюць на мэце задавальненне патрэбнасцяў айчынных і замежных грамадзян у турысцкіх паслугах, прыцягненне інвестыцый. Аднак, па словах загадчыцы аддзела старажытнага беларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, доктара мастацтвазнаўства, прафесара, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Н. Высоцкай, рацыянальнае выкарыстанне гісторыка-культурнай спадчыны Мірскага замка немагчыма без стварэння належнага ўзнаўлення інтэр'ера, дэкору і без экспанатаў XVI–XVIII стагоддзяў. Але гэта вельмі праблематычна, бо большасць арыгінальных рэчаў, якія ўпрыгожвалі б замак і сёння найбольш пераканаўча сведчылі б аб тым перыядзе, каштуе вялікіх грошай, ды й знаходзяцца такія экспанаты найчасцей у далёкім замежжы. Да прыкладу, крэсла XVI стагоддзя, аналаг той дарагой мэблі, што стаяла ў пакоях і залах палаца, каштуе сёння 100 тысяч даляраў. Таму без вялікіх фінансавых укладанняў і без вялікай карпатлівай працы па ўзнаўленні інтэр'ераў палаца тут не абысціся. Як і без далейшага вывучэння радаводу Радзівілаў. Бо ў 1569 годзе Мір разам з замкам і графскім тытулам быў завяшчаны Мікалаю Крыштофу Радзівілу (Сіротку) (1546–1616), прадстаўніку Нясвіжскай лініі Радзівілаў.

Выступалі навукоўцы, выкладчыкі ВНУ, якія стараліся дапоўніць новымі даследаваннямі і падзяліцца пэўнымі напрацоўкамі ў галіне даследаванняў, дзе разглядалася архітэктурнае і гістарычнае аблічча Мірскага замка.

З навуковымі паведамленнямі выступілі Л. Сысоева – «Генеалогія Іллінічаў. Новыя матэрыялы», Т. Габрусь – «Базіліка святога Мікалая ў Міры», В. Гаршкавоз – «Мастак з Міра Казімір Лютніцкі. XVIII ст.», А. Ярашэвіч – «Алтарная скульптура мірскага касцёла св. Мікалая (XVII–XIX ст.)», І. Лажэчнік – «Мірскі замак у творах мастацтва», Н. Усава – «Перапіска апошніх жыхароў Мірскага замка.1935–1939 гг.», Г. Манюкевіч – «Мірскі замак як турысцкі аб'ект. Статыстыка наведванняў у 2000–2004 гг.» і іншыя. Яны адзначалі, што пройдзе няшмат часу і ўсё тут зажыве новым жыццём. І добра, што замак становіцца магутным цэнтрам культуры, дзе будуць ладзіцца вялікія культурныя акцыі. Замак павінен жыць, а для гэтага неабходны намаганні многіх людзей, бо асноўным уладальнікам замка – Нацыянальнаму мастацкаму музею Рэспублікі Беларусь і Міністэрству культуры Рэспублікі Беларусь, безумоўна, без падтрымкі ажыццявіць ідэю адраджэння замка будзе вельмі складана.

*Пётр ЖЭБРАК*

## Падзвінне – для «прасунутых»?

Незабыўнае ўражанне пакідаюць архітэктурныя помнікі Падзвіння. Так, у час экскурсіі па старажытнаму Полацку вы пабываеце ў Сафійскім саборы, музеі кнігадрукавання і Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры. У заходняй Віцебшчыне паміж райцэнтрамі Глыбокае і Паставы, ці калі з Глыбокага кіравацца на Мосар, вас не пакінуць абыякавымі Благавешчанскі сабор і этнаграфічны музей у Германовічах, касцёл у Мосары. А вось у Глыбокім спадабаюцца не толькі царква Нараджэння Багародзіцы, а і дэндрапарк, і музей авіяканструктара Паўла Сухога, і Дом рамёстваў, дзе на вачах у здзіўленай публікі нараджаюцца сапраўдныя шэдэўры.

У Лепельскім біясферным запаведніку практыкуецца экалагічны турызм, а некаторыя фірмы прапануюць і водны – балазе рэк і азёр тут шмат. Напрыклад, у Браславе сёння гатовы арганізаваць самы розны адпачынак. Калі хочаце, адпраўляйцеся ў паход на байдарках, жыць давядзецца на лясных стаянках, ежу гатаваць на кастрах. Да паслуг жа тых, хто аддае перавагу камфорту і ўтульнасці, – абсталяваныя па апошняму слову тэхнікі катэджы ў Нацыянальным парку «Браслаўскія азёры». Праўда, у такім выпадку тыднёвы адпачынак сям'і з двума дзецьмі абыдзецца амаль у мільён рублёў.

## Навіна з МАЗа

Мінскі аўтазавод плануе абнавіць мадэльны рад тралейбусаў, што выпускаюцца аўтобусным філіялам МАЗа. Пра гэта БелаПАН паведаміў дырэктар аўтобуснай вытворчасці аўтазавода Рыгор Капач. Паводле яго слоў, плануецца вырабіць 15-метровы тралейбус на базе трохвосевага аўтобуса «МАЗ-107», а таксама сабраць тралейбус на базе больш доўгага «МАЗ-105». «Заказы на такія мадэлі ідуць з Кіева і Масквы», – зазначыў прадстаўнік МАЗа.

Кіраўнік аўтобуснай вытворчасці Мінскага аўтазавода таксама паведаміў, што МАЗ завершыць пастаўку 30 сваіх тралейбусаў у Кіеў у канцы чэрвеня – ліпені.



*На радзіме Коласа*

*На атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь*

# Твой край, твой род, ты сам...

Менавіта такая ідэя з'яўляецца галоўнай у серыі кніг «Сем цудаў Беларусі», якія на працягу апошніх гадоў усё часцей можна сустрэць у кнігарнях і бібліятэках Мінска і ўсёй Беларусі. Хацелася б узгадаць дзве кнігі з гэтай серыі: «Званы Нямігі» і «У гасцях у вечнасці».

Кнігі разлічаны на чытачоў малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту. Аднак і дарослага чалавека прываблівае ў іх непаўторны вобраз Бацькаўшчыны, старыя легенды, цікавыя расповеды пра помнікі старажытнасці, слаўных герояў нашай мінуўшчыны.

Аўтар Анатоль Бутэвіч надае ўвагу малавядомым фактам беларускай гісторыі. На старонках кніг адбываецца знаёмства маладых чытачоў з першымі на Беларусі крэмневымі шахтамі, гісторыяй заснавання ў Міры цыганскай сталіцы і легендарным морам на Палессі, пра якое калісьці даўно ўзгадваў «бацька гісторыі» Герадот.

Цікава прыгадваецца пра захаваныя з часоў ледавікоў магутныя валуны. Колькі легенд складзена пра іх мясцовым людам. А славутая рака Няміга! Ці не варта яна таго, каб узгадаць пра яе нашчадкам Рагвалода, Гедыміна, Альгерда і Вітаўта? Здаецца, што сюжэтаў і герояў гэтых кніг будзе бясконцае мноства. Тым больш, што падказвае іх сама Беларусь са сваёй багатай гістарычнай і культурнай спадчынай.

Як жа тут не прыгадаць пра унікальны Крэўскі замак. Гэты помнік, якому нададзена ўвага ў кнізе «У гасцях у вечнасці», лічыцца адным з першых мураваных замкаў на Беларусі. Адыграў значную ролю ў гісторыі не толькі нашай старажытнай краіны – Вялікага княства Літоўскага, але і іншых зямель. Менавіта тут была заключана Крэўская унія 1385 года. З замкам звязаны падзеі з жыцця вялікіх князёў літоўскіх: забойства Кейстута, цудоўнае ратаванне ад смерці Вітаўта. Гэты помнік і сёння ўражвае сваёй велічнасцю і прыгажосцю. На жаль, паступова страчваецца гэты велічны сімвал нашай гісторыі...

Вялікую мастацкую прыгажосць нясуць цудоўныя ілюстрацыі кніг на гістарычныя матывы, якія зроблены Паўлам Татарнікавым. Тут выявы старога Менска і Брэсцкай крэпасці, знакамітага Мірскага замка і Каложскай царквы. Тым больш, што дзяцей займае вобразнасць і каляровае афармленне таго, пра што ідзе гаворка на старонках кніг.

Такім чынам, можна толькі пажадаць поспехаў аўтару ў ажыццяўленні творчых задум і плённай працы па асвятленні ў сваіх кнігах непаўторных старонак гісторыі і культуры Беларусі.




Сённяшняя моладзь усё больш прыходзіць да адкрыцця сапраўднай і непаўторнай краіны, імя якой Беларусь. Узнікаюць свае героі, уражваюць цудоўныя замкі, касцёлы і цэрквы. І ў гэтай справе кнігі серыі «Сем цудаў Беларусі» з'яўляюцца выдатнай падтрымкай для будучых таленавітых пісьменнікаў, паэтаў, гісторыкаў і ўсіх тых, хто захоўвае любоў да сваёй Радзімы.

***Павел КАРАЛЁЎ,*** 
***студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры, старшыня гісторыка-краязнаўчага таварыства «Этна» БДУ культуры***

Лічу, што Павел Каралёў вельмі коратка, але досыць дакладна абазначыў выразную вартасць згаданых і іншых кніг Анатоля Бутэвіча. Яны – найперш для нашай моладзі, якая, на першы погляд, праз тэлевізар і Інтэрнэт ведае ўсё на свеце, але, на жаль, многія маюць зусім малыя звесткі пра сваіх бацькоў, дзядоў і прадзедаў, пра свае дом і вуліцу, пра вёску і гарады, пра родную прыроду, гісторыю і культуру, без чаго збеднена ўсведамленне і сваёй Бацькаўшчыны, і свету: Беларусь – маленькая ў свеце, але адзіная па рысах і характары, як кветка ў суквецці.

Анатоль Бутэвіч сваімі кнігамі спрыяе гэта паўнацэнна ўсвядоміць моладзі як маладым гарамадзянам, сынам сваёй зямлі і Сусвету. І зноў жа, асабіста я лічу, робіць гэта нязмушана, займальна, змястоўнай беларускаю мовою як пісьменнік, які піша прозу і дакументальную публіцыстыку. Адпаведна ён варты таго, каб яго ўшанаваць высокім дзяржаўным прызнаннем.

***Генрых ДАЛІДОВІЧ***

# Адпачынак

***Надышла пара летняга адпачынку, і цікава даведацца, дзе праводзяць яго нашы суайчыннікі, якія віды адпачынку найбольш папулярныя***

## У экспартным і айчынным выкананні

Пасля распаду Савецкага Саюза турызм апынуўся ў заняпадзе. Зніклі або звузілі сваю дзейнасць турыстычныя секцыі, клубы, краявыя, абласныя, раённыя саветы па турызме і экскурсіях, федэрацыі турызму ў рэспубліках, краях. Зачыніліся многія турыстычныя базы.

Самадзейны, або спартыўны турызм застаўся існаваць дзякуючы энтузіязму людзей, для якіх ён стаў часткай жыцця.

Людзі старэйшага пакалення памятаюць, як падчас летняга адпачынку, яны, выбраўшы планавую вандроўку па маршруце, набывалі пуцёўку і адпраўляліся насустрач новаму і невядомаму на байдарках, веласіпедах, лыжах, пешшу ці на конях. У дарозе іх забяспечвалі ўсім неабходным: ежай, жыллём, абсталяваннем, транспартам і экскурсійным абслугоўваннем. Яны вандравалі па вызначаных, загадзя распрацаваных і падрыхтаваных маршрутах з вопытным інструктарам.

У апошнія гады на змену планавым турыстычным вандроўкам прыйшоў камфартабельны адпачынак у зоркавых гатэлях, пансіянатах, санаторыях. Узніклі цэнтры міжнароднага абмену, і ў моладзі і студэнтаў з'явілася магчымасць не толькі вандраваць, але і працаваць за мяжой. Стаў папулярным і такі від вандровак, як «аўтастоп», вельмі распаўсюджаны ў еўрапейскіх краінах.

Дзякуючы міжнародным валанцёрскім летнікам, можна не толькі наведаць іншую краіну, але і ўдасканаліць веданне замежнай мовы.

На пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя ўзніклі так званы чаўночны турызм і шоп-туры па Еўропе, якія не страцілі папулярнасці і па сёння. Сотні людзей з мэтай набыцця тавараў для ўласнага карыстання і продажу накіроўваюцца ў еўрапейскія і ўсходнія краіны.

Калі дазваляе сямейны бюджэт (матэрыяльны дастатак), то ў большасці выпадкаў суайчыннікі праводзяць свой адпачынак за мяжой. Тут найбольш папулярныя такія краіны, як Турцыя, Балгарыя, Кіпр, Егіпет, Чэхія і інш. Не губляе сваёй папулярнасці і ўзбярэжжа Чорнага мора, асабліва сярод моладзі і так званых дзікуноў.

А дзе правесці свой адпачынак тым (а такіх большасць), каму фінансавыя сродкі не дазваляюць адпачыць, асабліва са сваёй сям'ёй, у той жа Балгарыі ці Турцыі? Вось тут самы час згадаць пра айчынныя здраўніцы. Санаторыі «Баравое», «Сосны», «Азёрны», «Нарач» прапануюць шырокі дыяпазон паслуг. Толькі зноў жа – не ўсім гэты адпачынак па кішэні. У некаторых выпадках танней з'ездзіць адпачыць у Балгарыю.

Што ж тычыцца беларускіх турбаз, то з-за меншага дыяпазону паслуг кошт адпачынку там ніжэйшы.

Санаторыі-прафілакторыі, якія засталіся пры прадпрыемствах, таксама даюць магчымасць неблагога адпачынку сваім калектывам.

Нямала сярод нас аматараў летняга адпачынку на лецішчах, у вёсках, дзе можна збіраць грыбы, ягады, бавіць час на рыбалцы. Многія адпачываюць на ўлонні прыроды. Сямейныя экіпажы адпраўляюцца ў водныя, пешыя, велапаходы, але такіх зусім няшмат. Каля паловы насельніцтва Беларусі наогул адпачывае ў хатніх умовах, нікуды не з'язджаючы з дому.

Таццяна Мельнічук, рэдактар газеты «Беларуская маладзёжная»:

*– Свой адпачынак я праводжу на кухні, дзе заўсёды побач сіямская котка Мышка і дог Ізюм. Па-сапраўднаму адпачывала ўжо даўно, бо заўжды знаходзіцца нейкая прафесійная праца. Бываюць выпадкі, што ў час летняга адпачынку даводзіцца прымаць удзел у замежных семінарах, пасля якіх я прыязджаю дамоў як адпачыўшы, у добрым настроі. І наогул, перамена месца, хоць на невялікі час – гэта найлепшы сродак для адпачынку.*

Алесь Анціпенка, супрацоўнік часопіса «Спадчына»:

*– Летні адпачынак праводжу на лецішчы. Побач лес, рэчка. Баўлю вольны час, назіраючы за навакольнай прыродай: штодзённым шляхам сонца, ростам дрэў, кветак.*

Марына Загорская, журналістка:

*– На вялікі жаль, мой летні адпачынак складае не больш за 10 дзён. І калі ніякіх перашкод няма, то я накіроўваюся да мора, часцей за ўсё да Чорнага. Большую частку адпачынку праводжу на пляжы: купаюся, загараю, вандрую ўздоўж узбярэжжа. Пляжы выбіраю нешматлюдныя. З усіх месцаў, дзе я адпачывала, мне больш спадабалася ўзбярэжжа Міжземнага мора.*

Наталля Міклуш, майстар працоўнага навучання ліцэя № 1 машынабудавання:

*– Раней, падчас летняга адпачынку, ездзіла з будаўнічымі атрадамі ў Стаўрапольскі край. Апошнія гады езджу ў вёску да бацькоў. Там спалучаю адпачынак з працай. Па магчымасці, на невялікі тэрмін адпраўляюся да сваякоў у іншыя гарады. Так, летась тыдзень адпачывала ў Санкт-Пецярбургу.*

Варта патлумачыць, што вабіць нашых суайчыннікаў у замежжа. Напэўна тое, чаго ў нас няма. Таксама «мода» вандраваць па розных краінах. Цікаўнасць да экзатычнай прыроды, жывёл, помнікаў сусветнай культуры, імкненне пабачыць, як жывуць у іншых краінах, наведванне вядомых карнавалаў і святаў, новыя знаёмствы, змена абставін, клімату, набыццё каштоўных рэчаў, унікальнасць адпачынку і інш. А гэта ўжо турыстычны бізнес, у многіх краінах з гэтага толькі і жывуць.

А што перашкаджае наладзіць адпачынак і стварыць турыстычны плацдарм у нашай краіне, каб тыя ж палякі, немцы, галандцы адпраўляліся ў вандроўкі да нас? Да нас везлі свой капітал.

Адно і скажаш, што не хапае індывідуальнасці, развітой інфраструктуры, самабытнасці. Больш было б «Дудутак», і зацікавіліся б Беларуссю іншаземныя вандроўнікі. Мала дзе можна ўбачыць саламяныя вырабы, драўляныя прадметы быту пачатку XX стагоддзя, хаты, дахі якіх пакрыты гонтай. Багатая наша краіна на старажытныя замкі (Мірскі, Гальшанскі, Лідскі, Навагрудскі і інш.), непаўторная шматлікімі рэкамі, азёрамі і балотамі, ды існуючыя калісьці саюзныя турыстычныя маршруты знаходзяцца ў закінутым стане. Разбураны ўтульныя стаянкі. Ці не таму мала каго з замежжа вабяць турыстычныя маршруты сінявокай Беларусі: водныя, пешыя, веласіпедныя, конныя?

У апошнія гады назіраецца папулярнасць сярод моладзі, ды і дарослых, скалалажання, альпінізму. Захапляючыяся гэтым відам спорту, едуць у Крым, Карпаты, Жытомірскую вобласць за порцыяй адрэналіну. У Мінску існуюць два невялічкія закрытыя саматужныя скаладромы, даступныя вузкаму колу аматараў, і своеасаблівы скаладром у Лошыцы. Зразумела, былі б умовы для заняткаў скалалажаннем (а займацца можна круглы год), то шэрагі аматараў лажання па скалах не толькі б павялічыліся, але з цягам часу была б падстава правядзення спаборніцтваў па закрытым скалалажанні.

У нас яўная перавага аддаецца развіццю зімовых відаў спорту. Напэўна, такая папулярызацыя лыжнага і горналыжнага спорту, хакею ды і проста катання на каньках, звязана са снежнымі, марознымі зімамі апошніх гадоў. Сапраўды, магчымасцямі займацца лыжным, горналыжным спортам можна толькі цешыцца, калі ўзяць тыя ж горналыжныя трасы ў Раўбічах, у Лагойскім раёне. Не трэба выязджаць кудысьці за межы радзімы, ды і з рэспублік былога Саюза лыжнікі хутчэй прыедуць у Беларусь, чым у еўрапейскія краіны, бо да нас бліжэй.

Застаецца дадаць, што ў бліжэйшы час аматары аквапаркаў стануць наведваць айчынныя, якія будуць пабудаваны на тэрыторыі санаторыя «Азёрны» і ў Мінску (праспект Машэрава).

Застаецца толькі дадаць, былі б грошы, а адпачыць можна і ў роднай Беларусі. Аднак па-сапраўднаму адпачнуўшым чамусьці пачуваеш сябе па вяртанні з курортаў замежжа.

***Марына КВЯТКОЎСКАЯ***

**Наступны № 29-30 выйдзе 17 жніўня**

Кніжныя навіны

# Першы з 23 тамоў Збору твораў Ніла Гілевіча

Імя народнага паэта Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі, прафесара Ніла Гілевіча добра вядома як у нашай краіне, так і за мяжой. Прыгадаю, што яго творы перакладзены на многія еўрапейскія мовы, яго літаратурная дзейнасць адзначана балгарскімі і югаслаўскай узнагародамі. Н. Гілевіч стаяў ля вытокаў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, як адзін з яе сузаснавальнікаў выступіў з асноўным дакладам на пленарным пасяджэнні I Міжнароднага кангрэса (1991).

Нядаўна ў выдавецтве Беларускага таварыства «Кніга» выйшаў з друку першы том новага Збору твораў паэта і вучонага. У яго ўвайшлі вершы 1946–1990 гадоў. Яны прысвечаны Беларусі, яе людзям (сярод іх – Францішак Скарына і Якуб Колас, Іван Мележ і Васіль Быкаў), роднай Лагойшчыне. Для аўтара з такімі шырокімі міжнароднымі кантактамі заканамерна, што ў том уключаны вершы, прысвечаныя Арменіі («Дыялог па дарозе на Севан»), Балгарыі («Балгарскаму брату», «Музей у Тырнаве», «Хрыста Боцеў» і інш.), Манголіі («У юрце Сасорбарама»), Польшчы («Ля магілы беларускіх партызан на Беласточчыне», «Асвенцым»), Расіі («Усурыйская юшка»), Славеніі («Братам славенцам»), Украіне («Каля помніка Марыі Заньковецкай у Кіеве»), Францыі («Мой Парыж»). І гэта не апісальныя, «акалічнасныя» творы – іх радкі прасякнуты пачуццямі павагі і любові да іншых народаў.

Першы том – пачатак вялікай выдавецкай задумы. Усяго ў Зборы твораў будуць 23 тамы. Як відаць са змешчанага ў кнізе «Праспекта выдання», дзевяць тамоў складзе паэзія, тры – публіцыстыка, тры – проза, два – фалькларыстыка, па аднаму – драматургія, літаратуразнаўства, выбраныя старонкі з дзённікаў, аўтабіяграфічная кніга-роздум «Між роспачу і надзеяй». Тры тамы паэзіі – гэта перакладныя творы (два – з балгарскай і адзін з рускай, украінскай, польскай, славенскай, сербскай, харвацкай, лужыцкай, македонскай, славацкай і чэшскай моў). Яшчэ адзін паэтычны том – літаратурныя містыфікацыі і цыкл сатырычных паэм. Паколькі даволі шмат напісана пра адну з містыфікацый – «Сказ пра Лысую Гару», паведамлю для зацікаўленай чытацкай аўдыторыі, што ў кнігу ўвойдуць таксама «Ачмурэнне», «Гэй, наперад! Гэй, назад!», «Сказ пра ватнік», «Сказ аб незвычайнай эпідэміі ў старажытнай Тутэміі», «Сказ пра лігу «чыстакроўных» і інш. У 17-м томе мяркуецца змясціць эсэ, эцюды і абразкі пра пісьменнікаў замежных краін. У абсягу ўвагі аўтара будуць творцы балгарскай, рускай, сербскай, украінскай і іншых славянскіх літаратур.

У запланаваны Збор твораў увойдзе далёка не ўсё з напісанага Н. Гілевічам. Як сам ён адзначае ў «Неабходным патлумачэнні» да першага тома, у выданні не будзе многіх вершаў, асабліва ранняга перыяду творчасці, публіцыстычных артыкулаў, фальклорных запісаў, курсаў лекцый, празаічных і драматургічных перакладаў, ліставання. Усё разам гэта склала б каля 80 тамоў, што на сённяшні дзень яўна не пад сілу.

У заключэнне хачу падкрэсліць, што выданне 23-томніка – прыватная ініцыятыва «Кнігі». Частку расходаў на першы том пакрыў сам аўтар. Тыраж тома – усяго 500 экземпляраў. Таму спяшайцеся набыць яго. Ад імя супрацоўнікаў выдавецтва выказваю надзею, што чытачы прымуць нашу просьбу блізка да сэрца, падтрымаюць амбітны і унікальны па аб'ёме і тэматычным абсягу праект.

*Васіль ВІЛЬТОЎСКІ*

***Што ні кажы, а пасядзець у цяню старасвецкага дуба і паслухаць яго аповед пра гісторыю Бацькаўшчыны – сапраўдны падарунак у спякотны летні дзень чалавеку, улюбёнаму ў свой край...***




Колькі б я ні блукаў па ціхіх прысадах парку «Манькавічы», помніка садова-паркавай архітэктуры, што ў маім родным горадзе, заўсёды ішоў да разложыстага зялёнага волата, які ў адзіноце расце пасярод вялікай паляны. Яго доўгія, месяцам сухія, вялізныя галіны, зморшчаная ад старасці таўшчэзная кара – нібы люстэрка гісторыі палескага краю апошніх двух стагоддзяў. Яшчэ ў маладосці сённяшняму «гаспадару парку» давялося стаць сведкам падзей, якія ў свой час амаль паставілі Століншчыну ў адзін шэраг са знакамітым Нясвіжам.

А пачалося ўсё ў 1885 годзе, калі Марыя Дарота дэ Кастэлян, жонка Антонія Вільгельма Радзівіла, заклала ў Давыд-Гарадоцкай ардынацыі ля вёскі Манькавічы на высокім беразе ракі Гарынь маляўнічы парк, які па прыгажосці і экзатычнасці не павінен быў саступаць нясвіжскаму. З усіх куткоў Еўропы былі прывезены канадская елка, каўказская піхта, чырвоны дуб, палявы і блакітны клёны, крымская сасна і шмат іншых, незвычайных для Беларусі дрэў і кустоў. Прыкладна ў 1904 годзе ў гонар гэтай падзеі і ў знак удзячнасці сваёй маці Станіслаў Радзівіл непадалёк ад цэнтральнай алеі ўсталяваў вялікі камень, які захаваўся па сёння. Пры маладым князі ў 1903 годзе пачалося ўзвядзенне шыкоўнага палаца. Кіраваў гэтай справай спецыяльна запрошаны з Берліна архітэктар Венцэль. Пабудаваны ў псеўдаготычным, альбо неабарочным стылі, аднапавярховы палац меў надзвычай прыгожую чатырохпавярховую вежу з гадзіннікам і гербам. Як сведчыць дзённік Марыі дэ Кастэлян, жанчына была ў вялікім захапленні, калі бачыла старыя вежы з арламі – галоўным сімвалам фамільнага герба Радзівілаў.

Перад уездам на тэрыторыю парку стаялі каваныя вароты, зверху дэкараваныя арнаментам з гербам Радзівілаў. Побач з палацам знаходзіўся басейн, упрыгожаны фантанам і паркавымі скульптурамі (сфінксамі, вазамі), а таксама газоны з травою і кветкамі, альтанкі. Усё гэта – даніна павагі французскаму садова-паркаваму мастацтву.

На ўскраінах парку размяшчаліся адміністрацыйныя будынкі. У адным з іх сёння знаходзіцца Столінскі раённы краязнаўчы музей. Захавалася і колішняя стайня. Дарэчы, пры Радзівілах стайні трымаліся па англійскім ўзоры. А ў карэтнай былі карэты яшчэ аж XVII ст.

Унутранае ўбранне палаца было таксама на высокім узроўні. На сценах пакояў вісела калекцыя халоднай зброі, галовы дзікоў, ласей, упаляваных у палескіх лясах. У вестыбюлі стаяў камін, зроблены з белага мармуру і дэкараваны карнізам з косці. Для аздаблення залаў былі спецыяльна запрошаны рамеснікі з Італіі.

Першая сусветная вайна пакінула разбуральны след у гісторыі манькавіцкай сядзібы. На тэрыторыю Расіі была вывезена, а потым і бясследна знікла амаль уся бібліятэка, што захоўвала вялікую калекцыю старажытных кніг, а таксама калекцыю віленская выдаўца Юзафа Завадскага. Сам палац пацярпеў ад значных разбурэнняў.

У 1920 годзе, падчас савецка-польскай вайны, загінуў Станіслаў Радзівіл (быў ад'ютантам Юзафа Пілсудскага).

Трынаццатым і апошнім Давыд-Гарадоцкім ардынантам стаў Караль Мікалай Радзівіл. Нарадзіўся ён у 1886 годзе ў Берліне, атрымаў адукацыю ў Ягелонскім універсітэце (Кракаў), у даскаласці вывучыў земляробства. Перададзеныя яму ў спадчыну маёнтак патрабаваў амаль поўнага аднаўлення. Гэта справа была паспяхова выраšана ў 1922 годзе пад кіраўніцтвам варшаўскага архітэктара Юліяна Нагурскага. І хоць адбыліся некаторыя змены ў знешнім аблічча палаца, ды і ўнутранае ўбранне не было ўжо такім шыкоўным, як пры ранейшых гаспадарах, фамільны герб Радзівілаў па-ранейшаму ганарова ўпрыгожваў вежу манькавіцкай сядзібы.


*Палац на старой паштоўцы*

Новы гаспадар Століншчыны быў заўзятым паляўнічым. У вялікім свяце, якое ён часцяком наладжваў разам з загоншчыкамі (сялянамі з навакольных вёсак), прымала удзел да васьмісот чалавек. Менавіта ў сувязі з гэтым, таму што для Караля Радзівіла паляванне не было звычайным, апантаным забойствам. Як сведчаць дакументы, за колькі дзён у багатых на звера палескіх лясах здабывалася альбо адна лісіца ці воўк, альбо некалькі дзікоў. Асабліва любіў гаспадар тутэйшых земляў ласёў і спецыяльна займаўся іх развядзеннем. Трэба адзначыць, што на паляванні ў Караля Радзівіла частымі гасцямі былі князі Любамірскія, Друцкія – Любецкія, граф Канстанцін Замойскі.

Другая сусветная вайна канчаткова вырашыла лёс манькавіцкай рэзідэнцыі знакамітага роду.

У верасні 1939 года Караль і яго жонка Ізабэла Радзівіл разам з польскім войскам, што адступала, намагаліся перабрацца ў Румынію, аднак апынуліся ў савецкім лагеры для ваеннапалонных. Адсюль, пасля вызвалення ў 1942 годзе, выехалі ў Англію, а потым і ў Паўднёва-Афрыканскую Рэспубліку. Там займаліся развядзеннем курэй. У апошнія гады жыцця Караль вярнуўся ў Польшчу, дзе памёр у 1968 годзе.

Прыгожы і шыкоўны палац з 1 верасня 1940 года быўператвораны ў сельгастэхнікум і бальніцу на 50 месцаў. З прыходам нямецка-фашысцкіх войск у ім размяшчаўся штаб СС горада Століна. У студзені 1943 года партызаны зрабілі спробу забіць яго, аднак няўдала. Эсэсавец схаваўся ў вежы палаца і дачакаўся падмацавання са Століна. У выніку гэтага бою маёнтак быў значна пашкоджаны. Пасля вайны мясцовыя жыхары разабралі яго на цэглу.

Цяпер на месцы манькавіцкай сядзібы Радзівілаў вялікая паляна, на якой і да сённяшняга часу стаіць той самы зялёны волат, стары дуб-дзядуля. І кожнаму, хто не абыякавы да гісторыі зямлі сваіх продкаў, ён з ахвотаю раскажа пра падзеі, сведкам якіх яму давялося быць.

*Ігар ГРЭЧКА*


*Манькавіцкія пан (стаіць другі справа) і пані (сядзіць справа) з гасцямі. 1930-я гг.*

**P.S.** Вялікі дзякуй за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялу хочацца сказаць Святлане Паўлаўне Вярэніч, дырэктару Столінскага краязнаўчага музея, і ўсім яго супрацоўнікам.



Нямы сведка баёў

Фота Міхася ХАМЦА

# Генеральная рэпетыцыя Курскай дугі

***Першыя дні вайны лічаць перыядам паражэнняў Чырвонай Арміі. Маўляў, гітлераўская жалезная машына кацілася на ўсход і ўсё спусташала на сваім шляху. Але гэта далёка не так. Ужо ў першыя часы пасля вераломнага нападу не толькі Брэсцкая крэпасць – уся наша зямля ператварылася ў пастку для чужынцаў. Шкада, што не ўсе такія факты атрымалі дастатковую вядомасць.***

Адна з такіх «плям» у гісторыі гераічнага супраціўлення – танкавая бітва пад горадам Сянно ў Віцебскай вобласці. Яна пачалася 3 ліпеня 1941 года. Менавіта на сенненскай зямлі ў першыя тыдні вайны былі нашчэнт разбіты авангардныя часці танкавай арміі генерала Гудэрыяна. Як у народных казках і паданнях, бітва з фашысцкай пачварай бесперапынна працягвалася на працягу дзесяці дзён і начэй!

У выніку дасюль неператоможная танкавая армада была адкінута назад на 50–60 кіламетраў. Міф аб неператможнасці гітлераўцаў даў трэшчыну якраз на беларускай зямлі. Ніхто па-сапраўднаму не мог злічыць страты ворага. Толькі ў Сянно было пахавана 2,5 тысячы нямецкіх салдат і афіцэраў. І да канца вайны захопнікі вывозілі ў Германію на перазахаванне не толькі афіцэраў, але і генералаў.

Прадметам гонару сенненцаў з'яўляецца і такі гістарычны факт. Бяспрыкладную мужнасць і гераізм у іх мясцінах праявіў камандзір гаўбічнай батарэі старшы лейтэнант Якаў Іосіфавіч Джугашвілі. Рэдка каго ў першыя дні вайны прадстаўлялі да ўзнагароды ордэнам Баявога Чырвонага Сцяга. А гэты афіцэр быў удастоены такога гонару. І зусім не таму, што быў сынам Іосіфа Сталіна: вуліцы Сянно былі літаральна ўсцелены трупамі гітлераўцаў ад трапнага агню яго батарэі. На жаль, старшы лейтэнант Джугашвілі не змог атрымаць баявы ордэн, бо пры далейшым адступленні нашых войск на ўсход ён, як вядома, паранены трапіў у фашысцкі палон пад гарпасёлкам Лёзна...

Але вернемся да падзей танкавай бітвы пад Сянно. Яна дастойна свайго Льва Талстога і новых старонак «Вайны і міру». Асабліва шматлікіх эпізодаў, калі танкі з абодвух бакоў ішлі на таран, як самалёты ў паветры.

Аб маштабах крывавага супрацьстаяння можна меркаваць па такім прыкладзе: акрамя танкавай арміі Гудэрыяна ў варожым наступленні ў якасці паветранага падмацавання ўдзельнічалі 150 самалётаў з чорнымі крыжамі. А вось у савецкіх войск падмогі з неба не было. Больш таго, перапынілася забеспячэнне боепрыпасамі і гаручым. У выніку часці 20-й арміі пад камандаваннем генерала Курачкіна вымушаны былі прыпыніць няроўны бой і пачаць планамернае адступленне на ўсход.

Няшчыра і нават хлусліва сцвярджаць, што вораг нёс вялізныя страты, а з боку савецкіх войск абыходзілася без ахвяр. Шмат было забітых і параненых і сярод чырвонаармейцаў. Але родная зямля і тут ратавала і лячыла. Да прыкладу, у Тур'еўскай участковай бальніцы ўсе чатыры вялізныя карпусы былі запоўнены параненымі. Пераправіць іх у глыбокі тыл не ўяўлялася магчымым. Даводзілася лячыць і хаваць нашых байцоў і камандзіраў на акупіраванай тэрыторыі.

Харчавання і медыкаментаў хранічна не хапала. На выручку прыйшло насельніцтва вёсак Луг, Барок, Курэйшына, Алексінічы і многіх іншых. Яны збіралі і дастаўлялі для параненых хлеб і бульбу, сала, грыбы, ягады, гародніну... Мясцовыя народныя лекары, знахары-траўнікі дэманстравалі сапраўдны цуд хуткага зажыўлення ран і зрастання касцей. Сотні выратаваных жыццяў чырвонаармейцаў на рахунку народных лекараў з вёскі Курэйшына Ефрасінні Фёдараўны Барсуковай, Марфы Іванаўны Цуран, Ефрасінні Аляксееўны Станкевіч...

А цяпер аб тым, што хвалюе і адначасова засмучае. Добра, што ў нашай краіне з такой павагай рыхтуюцца да 60-годдзя Вялікай Перамогі. Засмучае, што ў Сянно дагэтуль адсутнічае мемарыяльная дошка, якая магла б засведчыць, што тут на пачатку вайны разгарнулася гіганцкая танкавая бітва. Свайго роду генеральная рэпетыцыя знакамітай Курскай дугі. І што на гэтым сімвалічным «полі Куліковым» лопнуў міф аб непераможнасці арміі фюрэра. Нават у мясцовым музеі пакуль «галаднавата» наконт такой гісторыі зусім не мясцовага значэння. На многіх брацкіх магілах адсутнічаюць мемарыяльныя пліты з прозвішчамі замучаных ці расстраляных у гады ліхалецця.

***Хочацца спадзявацца, што з дапамогай мясцовай улады сенненскія старонкі Вялікай Перамогі заззяюць абноўленымі залатымі літарамі.***

***Мартын СТАНКЕВІЧ,***
***член Віцебскага абласнога савета ветэранаў вайны і працы,***
***Віталій ФЁДАРАЎ,***
***«Рэспубліка»***

*Нядаўна вялікая група былых вязняў фашызму з Беларусі пабывала ў Германіі. Ініцыятары і арганізатары гэтай паездкі – нямецкі фонд «Памяць, адказнасць і будучыня», Беларускі рэспубліканскі фонд «Узаемаразуменне і прымірэнне», а таксама Міжнародныя адукацыйныя цэнтры Дортмунда і Мінска. Для нашых суайчыннікаў гэта была магчымасць напярэдадні 60-гадовага юбілею вызвалення Беларусі ад фашызму расказаць маладому пакаленню немцаў аб тых неверагодна цяжкіх і горкіх часінах як уласнага жыцця, так і жыцця сваёй краіны. Нямецкія газеты пісалі, што «гэта была гісторыя з першых рук, з вуснаў тых, хто вынес сапраўдныя мукі пекла і застаўся жывым». Сярод беларускіх грамадзян, якія прыехалі ў Германію, былі вязні нямецкіх лагераў, прымусовыя рабочыя, вязні гета, канцлагераў, створаных фашыстамі на акупіраванай тэрыторыі...*

*А вось што расказаў пра саміх вязняў наш калега з газеты "Звязда" Міхаіл Міхаевіч.*

# Каб час вязняў не раз'ядноўваў, а звязваў

Іосіф Есілевіч у трохгадовым узросце разам з сям'ёй быў змешчаны ў гета ў Вінніцкай вобласці. З 17 чалавек сям'і да дня вызвалення ў сакавіку 1944 года ў жывых засталіся толькі чацвёра...

Зінаіда Гарачка да вайны скончыла тры класы. У 1943 годзе, адступаючы, немцы ўсю іх віцебскую вёску вывезлі ў Германію, змясцілі ў канцлагер. Працавала ў Германіі аўтагеншчыцай. Пасля вызвалення вярнулася ў Беларусь, вучылася ў рамесным вучылішчы і адначасова ў вячэрняй школе. Усё жыццё працавала на абутковай фабрыцы ў Мінску...

Вольга Няхай. Яшчэ да пачатку вайны атрымала тэатральную адукацыю, у час акупацыі разам з мужам стала падпольшчыцай. Фашысты напалі на іх след, мужу ўдалося дабрацца да партызанаў, а яе, маці і маленькага сына Вольгі кінулі ў турму. Муж і сын загінулі, а Вольгу вывезлі ў канцэнтрацыйны лагер у Германію...

Іван Сачанка дзіцем трапіў у адзін з самых страшных лагераў смерці фашысцкай Германіі – Дахау. Цудам выжыў (хоць гэтае слова «цуд» датычыць кожнага, хто перажыў жудасныя засценкі фашыстаў). Атрымаў пасля вайны выдатную адукацыю, усё жыццё вучыў і вучыць будучых журналістаў майстэрству слова...

Аркадзь Шкуран да сваіх дзесяці гадоў прайшоў разам з роднымі некалькі фашысцкіх лагераў. Урэшце ўсіх іх у 1944 годзе загналі ў Азарычы. Усе вязні гэтага лагера па задумцы гітлераўцаў павінны былі стаць для немцаў жывым шчытом ад Чырвонай Арміі. Ворагі планавалі заразіць насельнікаў лагера страшнымі хваробамі – тыфам, чумой і іншымі, каб усё гэта перакідвалася на наступаючыя войскі. За нейкі тыдзень у Азарычах загінулі тысячы і тысячы нашых суайчыннікаў...

Усе гэтыя людзі, якіх мы назвалі, як і абсалютная большасць іх таварышаў па няшчасці, нягледзячы на перажытае, захавалі лепшыя чалавечыя якасці – спагадлівасць і дабрыню. І незвычайную жыццёвую стойкасць духу, якая насуперак абставінам дапамагла ім здзейсніць сваю мару, атрымаць адукацыю, стаць высокакваліфікаванымі спецыялістамі. Не будзем забываць, што знаходжанне ў палоне, у фашысцкім лагеры, нават на акупіраванай тэрыторыі, лічылася ў савецкай дзяржаве сур'ёзнай падставай для недаверу, ледзь не здрадай народу. Адсюль і адпаведныя адносіны да іх. Гэта адна з галоўных прычын таго, што пераважная большасць былых вязняў – людзі невялікай граматы. Вось чаму тыя, каму пашчасціла выбіцца ў жыцці, здзейсніць сваю мару, добраахвотна ўсклалі сёння на свае плечы цяжкі, але пачэсны абавязак: дапамагаць сваім братам і сёстрам па няволі. Прэзідэнт Беларускага аб'яднання былых вязняў фашызму «Лёс» прафесар Вольга Няхай, прэзідэнт Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Ахвяры Халакоста» кандыдат навук Іосіф Есілевіч, старшыня Мінскага гарадскога аб'яднання былых малалетніх вязняў фашызму кандыдат навук Іван Сачанка, сакратар Папячыцельскага савета юрыст Аркадзь Шкуран, Герой Сацыялістычнай Працы Зінаіда Гарачка і іншыя актывісты грамадскіх аб'яднанняў робяць усё магчымае, каб маральна і матэрыяльна дапамагчы былым вязням, падтрымаць іх у цяжкую хвіліну жыцця.

Рыхтуючыся да сустрэчы з былымі вязнямі фашызму, арганізатары паездкі з нямецкага боку правялі вялікую папярэднюю работу. Паколькі планавалася сустрэча розных пакаленняў – былых вязняў і сучасных школьнікаў, то была боязь, што іх гутарка можа атрымацца, як кажуць, на розных мовах. У прамым і пераносным сэнсе. Розныя інтарэсы, рознае ўспрыманне былой рэчаіснасці і сучаснай гісторыі... Але асцярога аказалася дарэмнай. Прыкладна за год да сустрэчы вучні дзесяткаў нямецкіх школ па ўсёй Германіі на чале з педагогамі правялі вялікую даследчую работу. Яны працавалі ў архівах, шукалі і знаходзілі тых, у каго працавалі «остарбайтэры», удакладнялі іх імёны, магчымыя адрасы, умовы ўтрымання, адносіны паміж гаспадарамі і вязнямі, прамысловыя прадпрыемствы, дзе выкарыстоўвалася прымусовая праца, і да т.п. Так што калі былыя вязні, па два чалавекі плюс перакладчык, з Берліна раз'ехаліся па ўсёй Германіі, сустрэчы і размовы ў школах сталі сапраўднымі ўрокамі нашай балючай агульнай гісторыі. Былі і пытанні, на якія дакладна не мог адказаць ніхто. Ні маладыя немцы, ні іх настаўнікі, ні былыя вязні. Напрыклад, такое. Былы вязень гета Іосіф Есілевіч пытаў у гаспадароў: «Едучы да вас, мы бачылі цудоўна ўладкаваную, прыгожую Германію, дарогі, пабудовы, багаты быт яе грамадзян. За ўсім гэтым дабрабытам я ніяк не магу зразумець, чаму вашы дзяды і прадзеды, з якой нагоды, у пошуках якога шчасця і жыцця для сябе 65 гадоў назад рушылі са зброяй на Польшчу і Францыю, на Чэхію і Англію, на Савецкі Саюз?.. Дзеля чаго загублены мільёны жыццяў нашых і вашых родных і блізкіх?»

Гэтае ў чымсьці рытарычнае, але з вельмі і вельмі глыбокім сэнсам пытанне не магло не хваляваць нямецкіх і беларускіх грамадзян падчас ускладання кветак да Мемарыяла ў гонар загінуўшых вязняў на гарадскіх дзеючых могілках Берлін–Марцан. Мемарыял створаны на ахвяраванні немцаў і адкрыты ў пачатку гэтага года. Выступаючы на цырымоніі ўскладання кветак, адказны работнік нямецкага фонду «Памяць, адказнасць і будучыня» Гюнтэр Заатоф заначыў: «Ствараць масты ўзаемаразумення праз рэкі крыві цяжка, але неабходна. Дзеля будучыні». Сапраўды, без гэтага гісторыя не можа быць асэнсавана належным чынам.

Тэма пакаяння нямецкага народа перад мёртвымі ахвярамі нацыянал-сацыялізму і іх патомкамі, урокаў гісторыі гучала і на прыёме, наладжаным у ведамстве федэральнага прэзідэнта Германіі ў гонар былых вязняў з Беларусі. Дзяржаўныя і грамадскія дзеячы сучаснай Германіі дзяржсакратар Фрон і старшыня фонду «Памяць, адказнасць і будучыня» доктар Янсен падкрэслівалі, што практычна ўсе праекты, якія ладзяцца ў рамках былога Савецкага Саюза з грамадскімі арганізацыямі вязняў фашызму, у першую чаргу скіраваныя на маладыя пакаленні. Бо ім належыць будучыня, і яе не павінна азмрочваць чорнае і страшнае мінулае. «Вось чаму мы лічым вельмі важнымі для маральнага станаўлення моладзі сустрэчы былых вязняў фашызму з юнымі немцамі. Вочы ў вочы, твар у твар». Такая пазіцыя знайшла разуменне і ў нашых суайчыннікаў.

*Доктар М. Янсен гутарыць з былым вязнем Тамарай Хвісевіч*



# Віцебшчына гістарычная і сённяшняя



Разліў Дзвіны за Верхнядзвінскам

## Нездарма тут граніт чырвоны

Калі глядзець на Успенскую горку з боку Заходняй Дзвіны, то такое ўражанне, што з высачэзнага дрэва вось-вось узляціць у чэрвеньскі блакіт неба вялікая чорная птушка. Толькі чаму ў яе... дзве галавы?

Каб разгадаць такі дзіўны рэбус, варта падняцца на круты магутны бераг. Вачам адкрываецца велічны помнік героям Айчыннай вайны 1812 года вышынёй 26 метраў. Чатырохгранны абеліск з чырвонага граніту, увенчаны бронзавым двухгаловым арлом, які здалёк так падобны на жывую птушку.

У канцы ліпеня 1812 года пад Віцебскам, асабліва ў межах вёсак Астроўна, Кукавячына і Дабрэйка, разгарнулася крывавае пабоішча паміж рускімі і напалеонаўскімі войскамі. Апошнія нахабна ірваліся да Масквы па старой смаленскай дарозе. Французаў тады колькасна было значна больш, але арміі генералаў Астэрмана-Талстога і Канаўніцына ўсё ж здолелі прыпыніць варожую лавіну.

Роўна праз сто гадоў у гонар тых драматычных падзей, у адзнаку мужнасці і стойкасці рускіх віцязяў на сродкі, сабраныя народнай «талакой» усёй губерні, і быў збудаваны гэты помнік. Па вуглах яго ўстаноўлены чатыры чыгунныя гарматы, адлітыя па ўзоры марцір эпохі Пятра Першага.

Ёсць нешта сімвалічнае і ў тым, што побач з героямі вайны 1812 года на Успенскай горцы размясціліся і мемарыяльныя могілкі абаронцаў Айчыны ад гітлераўскіх захопнікаў. Тут пахавана група генералаў і афіцэраў Савецкай арміі: Герой Савецкага Саюза генерал-маёр Сівакоў, Герой Савецкага Саюза гвардыі маёр Янушкоўскі, генерал-маёр артылерыі Сцепаненка, палкоўнік Казлоў, гвардыі падпалкоўнік Севасцьянаў... А ў 1964 годзе гэтыя афіцэрскія могілкі на фоне помніка героям 1812 года папоўніліся і мемарыяльнай плітой у гонар легендарнага партызанскага камбрыга Міная Шмырова – бацькі Міная...

Такая вось дзіўная і велічная повязь гераізму розных эпох і пакаленняў. Нездарма колер граніту чырвоны. Як крыві, пралітай за свабоду і незалежнасць дарагой Айчыны.

## Дзвіна — наша радасць і боль

Ёсць у Віцебску адно нетыповае прадпрыемства. Раней яно называлася проста: рачны порт «Віцебск».

Сёння ж гэта Рэспубліканскае унітарнае транспартна-прамысловае прадпрыемства рачнога флоту «Віцебскрачтранс», і размяшчаецца яно ўдалечыні ад тлуму гарадскога, на заходняй ускраіне абласнога цэнтра – правым беразе Заходняй Дзвіны. Ужо не адзін дзесятак гадоў прадпрыемства ўзначальвае Міхаіл ВАЙТКО.

**– Экіпажу яхты газеты «Рэспубліка» не лішнім будзе ведаць, як сябе паводзіць на таямнічай і наравістай Заходняй Дзвіне. Згодны, Міхаіл Уладзіміравіч?**

– Перасцярога не лішняя. Наша рака сапраўды дужа капрызная і непрадказальная, з няпростым характарам. Месцамі мелкаводная і камяністая. А таму тое, што ўмовы суднаходства цяжкія, вы будзеце адчуваць нават у час падарожжа на лёгкай яхце. І думаю, зразумееце, як няпроста нам вадзіць па Дзвіне «цяжкавозы». Да таго ж з кожным годам рака становіцца ўсё больш мелкай і складанай для эксплуатацыі.

Калі ж, для прыкладу, адгарнуць старонкі календара гадоў на 15–20 назад, то ўсё выглядала непараўнальна лепш. Для нас васьмідзесятыя гады мінулага стагоддзя наогул былі самымі плённымі, самымі стваральнымі. Гэта быў час маштабнай запатрабаванасці воднага транспарту.

Мяркуйце самі. У той час аб'ёмы водных перавозак штогод узрасталі на 14–20 працэнтаў. І за перыяд з 1984 па 1989 год яны павялічыліся ўдвая. За адну навігацыю мы перавозілі грузаў 2 мільёны 200 тысяч тон і больш.

• • • • • • • • • • • • • • • • • • • •

Ішло і бурнае пераўзбраенне рачнога флоту. Поўнасцю абнавіўся транспартны флот. На змену цеплаходам 50–60-х гадоў з'явіліся новыя судны – больш сучасныя і экалагічна бездакорныя. Тады ж уласнымі сіламі мы сабралі чатыры плывучыя краны. Штогод са стапеляў прадпрыемства спускаліся на ваду па дзве-тры адзінкі пабудаваных барж.

**– Каб усё гэта ацаніць, варта параўнаць з днём сённяшнім. Няўжо ўсё так кепска?**

– Не хачу сцвярджаць, што ўсё, аднак жыццё рачнікоў стала, на жаль, не салодкім. Ужо з 1993 года поўнасцю прыпыніліся перавозкі лясных матэрыялаў і сыравіны. Да мізэрнай колькасці скараціліся перавозкі нярудных будаўнічых матэрыялаў: за навігацыю аб'ём іх вагаецца ў межах 150–200 тысяч тон. З былых 80 адзінак суднаў рознага прызначэння цяпер засталося 36 адзінак. Але і прыкметна парадзелы рачны флот часта не мае заказаў, а таму задзейнічаны ў сярэднім на 30 працэнтаў. І нарэшце, незайздроснае фінансавае становішча прадпрыемства не дазваляе падтрымліваць належны тэхнічны стан суднаў, зберагчы ядро флоту, яго партовыя збудаванні.

**– Але пры гэтым ніхто не аспрэчвае, што рачны флот заўсёды лічыўся і лічыцца самым танным і зручным. Можа, тыя лепшыя часы яшчэ вернуцца?**

– Наша Заходняя Дзвіна сёння пакрыўджана наступам цывілізацыі як ніколі. Таму і становіцца ўсё менш прыдатнай для актыўнага суднаходства. Толькі недзе за Верхнядзвінскам рака набывае тую паўнаводнасць і магутнасць, якой заўсёды славілася.

І добрыя часы для ракі вернуцца толькі тады, калі адносіцца да яе мы будзем паважліва. Хочацца спадзявацца, што экалагічная праграма экспедыцыі газеты «Рэспубліка» і тэлеканала АНТ таксама паспрыяе навядзенню парадку на вадзе, на берагах, падкажа шляхі выхавання паважлівых адносін да ракі.

## Ці застануцца ў «Чортавай барадзе» залатыя валасы?

Адкуль такая злавесная назва? З сучасных інфармацыйных крыніц рассакрэціць тапанімічную загадку не пашанцавала. Не дапамаглі і мясцовыя жыхары, палічыўшы такую маю цікаўнасць звычайнай інтэлігенцкай прыхамаццю. Праўда, пры гэтым параілі паглядзець на «Чортаву бараду» здалёк. Для прыкладу, з супрацьлеглага берага Заходняй Дзвіны. І сапраўды, таямнічы заказнік нагадвае гіганцкую бараду. А яшчэ гэта самае высокае месца ў ваколіцах абласнога цэнтра.

Кароткая энцыклапедычная даведка паведамляе, што «Чортава барада» – гэта заказнік мясцовага значэння ў Віцебскім раёне, за два кіламетры на захад ад Віцебска на беразе Заходняй Дзвіны. Займае плошчу ў 50 гектараў. Рэльеф узгоркавы, у раслінным покрыве пераважаюць дрэвы дуба звычайнага, сасны, елкі, ліпы, ясеня. Нямала раслін, занесеных у Чырвоную кнігу краіны. У прыватнасці, пералеска (пячоначніца), першацвет вясенні, званочак персікалісцёвы, напярсцянка буйнакветкавая...

Яшчэ ў 1988 годзе мне давялося разбірацьканфліктную сітуацыю вакол бурных спрэчак па захаванні заказніка мясцовага значэння. І тут дарэчы ўспомніць, што менавіта ў гады вайны над дубровай завісла самая вялікая небяспека. Гітлераўцы прымусілі высекчы мноства векавых волатаў для патрэб рэйха. Адны кажуць, што дубовая сыравіна вельмі цанілася немцамі для вырабу паркету. Іншыя сцвярджаюць, што з векавых дубоў пілавалі дошкі, каб майстраваць труны для забітых на вайне афіцэраў і іншых важных асоб тагачаснай Германіі.

Таму наўрад ці ёсць сёння ў заказніку тыя дубы-патрыярхі, што былі старэйшыя за людзей – былых вызваліцеляў Айчыны. Аднак дубы захаваліся. Трапляецца нават чырвоны дуб – рэдкі самародак з Чырвонай кнігі. Альбо лопух дуброўны. Сцвярджаюць, што толькі ў Белавежскай пушчы яшчэ захаваўся гэты «чырванакніжнік». Навукоўцы і эколагі выявілі і патрабуюць захавання для нашчадкаў такіх прадстаўнікоў флоры «Чортавай барады», як дзевясіл, вераніка, некалькі відаў папараці, кароткаsuccessive ножка і яшчэ некалькі рэліктаў з Чырвонай кнігі.

Наша экспедыцыя таксама зробіць прыпынак каля шматпакутнага заказніка. Каб лішні раз (а ці бывае ён лішні?) засярodзіць увагу грамадскасці на неабходнасці зберагчы унікальны дар прыроды. Вобразна кажучы, тыя нямногія рэлікты, што яшчэ жывуць у заказніку, падобныя па каштоўнасці на залатыя валаскі ў звычайнай барадзе. Варта толькі іх вырваць дзеля нечай прыхамаці ці часовай уяўнай выгады – і можа знікнуць з твару зямлі апошняя такая жамчужына.

А пагроза ў нейкай меры ёсць. Згодна з рашэннем урада краіны вакол Віцебска запланавана будаўніцтва кальцавой аб'язной магістралі. Кошт яе ў цяперашніх цэнах складае каля ста мільярдаў рублёў. Завяршэнне будаўніцтва плануецца праз чатыры гады. Дык вось, невялікі ўчастак дарогі закране і палоску заказніка. Аднак вучоныя біёлагі і эколагі, якія дасканала вывучылі праект, лічаць, што будоўля аб'язной аўтатрасы не пашкодзіць дуброве. Да таго ж за самаадчуваннем «Чортавай барады» абяцае няспынна сачыць і мясцовая ўлада.

Але ж, пэўна, кантроль грамадскасці таксама будзе нялішнім.



## Сад-ветэран малады і прыгожы

Сённяшні батанічны сад Віцебскага дзяржуніверсітэта імя Машэрава яшчэ ў XIX стагоддзі меў камернае прызначэнне. Да рэвалюцыі на яго месцы размяшчаўся сад купца першай гільдыі. А побач усцешваў вока мясцовай знаці і яе высокавяльможных гасцей прыватны парк з шыкоўнымі тэрасамі.

Адразу пасля рэвалюцыі прыватнае ўладанне на схілах правага берага ракі Віцьбы пераўвасобілася ў вучэбна-паказальны сад для агульнанароднага карыстання. Перш за ўсё каштоўнасцямі такога жывога культурна-асветніцкага дзіва карысталіся студэнты і школьнікі. Супрацоўнікі саду вялі даследчую работу па вывучэнні мясцовай і іншаземнай флоры, выкарыстанні раслін у народнай гаспадарцы.

Ужо ў 1925 годзе батанічны сад налічваў каля 500 пладовых дрэў мясцовай селекцыі, каля 60 відаў паўднёвых раслін, шмат іншых дэкаратыўных насаджэнняў і ягадных кустоў. А яшчэ праз год тут была закладзена самая паўночная ў краіне плантацыя белай шаўкоўніцы, якая пазней налічвала каля двух тысяч дрэў.

Як і ўсё жывое, унікальны батанічны сад аказаўся безабаронным перад гітлераўскім нашэсцем. Ён быў практычна знішчаны. «От сада остались несколько лип, ив и на обрыве – кусты сирени. Территория была сильно изрыта траншеями и дотами», – сведчаць запісы таго часу.

Чарговае ажыўленне ў гісторыі батанічнага саду адбылося пасля пераўтварэння ў 1995 годзе педагагічнага інстытута ў Віцебскі дзяржаўны універсітэт, а сад набыў статус яго вучэбна-навуковага падраздзялення.

Сёння ні ў адной з навучальных устаноў краіны аналагаў Віцебскаму батанічнаму саду не існуе. Ландшафтны парк, аддзел дэкаратыўна-кветкавых травяністых раслін, дэндрарый, аранжарэі, экспазіцыйны ўчастак маюць калекцыю ў 1710 таксонаў. А таму сад з поўным правам прэтэндуе называцца «біялагічнымі лёгкімі» вялікага горада.

*Віталь ФЁДАРАЎ, Віктар СТРАЛКОЎСКІ, «Рэспубліка»*







Фота са збору Сяргея ПАНІЗЬНІКА

## Камень, пра які згадваў Ян Баршчэўскі

***Вёска Люцькава можа парадаваць кожнага заезджага чалавека геалагічным помнікам прыроды – Шатанскім каменем.***

Гэты валун, сям-там парослы мохам, велічным сваім масівам выглядае з зямлі і цудоўна ўпісваецца ў пейзаж возера Нешчарда. Ледавік прынёс яго каля 20–18 тысяч гадоў таму са Скандынавіі ў часы паазёрскага аледзянення. Так і застаўся тут камень, прыжыўся на расонскай зямлі і не захацеў больш вандраваць па свеце. Даследаванні Шатанскага каменя паказалі, што ён мае добра апрацаваную паверхню і акруглую форму.

Як кажуць, калі б камяні маглі гаварыць, яны паведалі б шмат цікавага пра свой лёс, а таксама пра тое, што бачылі яны за сваё шматвекавое жыццё.

Пра сам валун упамінае ў сваім творы «Шляхціц Завальня» Ян Баршчэўскі. А паданне гаворыць, нібы на камені сядзеў сам шатан (чорт) і хваліўся, што ўсё вакол належыць толькі яму. Адзін смелы селянін не пабаяўся сагнаць шатана з каменя.

Шатанскі камень адносіцца да так званых «чортавых камянёў», якія характэрны ў асноўным для Паўночнай Беларусі, Латвіі і Літвы. Чортавыя камяні даследчыкі звязваюць з культам паганскага боства.

*Д. ГАРЭЛІКАЎ*

# Старадаўнія прафесіі

*(Раздзелы з кнігі)*

## Балаголы

Распаўсюджаным відам гужавога і часткова пасажырскага транспарту ў Беларусі, асабліва на Палессі, напрыканцы XIX – пачатку XX стагоддзяў было рамізніцтва. Неабходнасць яго была абумоўлена слаба развітаю сеткай чыгункі і шашы. Людзі, якія займаліся гэтаю працаю, называліся балаголамі.

У той час балагол быў вельмі паважанаю персонаю. Ён ведаў сетку дарог, рэльеф мясцовасці, колькі вёрстаў да найбліжэйшай карчмы, дзе лепей напаіць і пакарміць сваіх коней і пасажыраў (калі апошнія былі), пераначаваць за мінімальны кошт. Звычайна балаголы, як і карчмары, былі яўрэямі. Гэта былі моцныя і крэпкія людзі, бо дапамагалі сваім каням на спусках і пад'ёмах дарогі. Іх паслугамі карысталіся купцы, гандляры, каб даставіць свае тавары ў аддаленыя мясціны.

Фургоны балаголаў зазвычай былі значна большымі і ўмяшчальнымі, чым проста конскі воз. Для абароны ад умоваў надвор'я фуры мелі крытыя брызентам авальныя тэнты. У залежнасці ад стану дарог і велічыні грузу ўпрагалі двух або чатырох коней. Загружаліся да ста пудоў, якія перавозілі на адлегласць да 100–150 вёрстаў. У любое надвор'е па шашы ці прасёлачным бездарожжы побач з фураю мерна крочыў загартаваны пад сонцам і ветрам балагол.

Апроч дастаўкі тавараў для купцоў, на некаторых маршрутах балаголы абслугоўвалі таксама непераборлівых пасажыраў, пераважна беднякоў яўрэяў.

У пошуках лепшай долі многія сем'і пераязджалі з аднога паселішча ў другое. І калі да чыгункі было далёка, то хто ж павязе небагаты, але такі неабходны скарб? Вядома ж, балагол. Дзеля гэтага наймалі фуры аблегчанай канструкцыі. Можна ўявіць сабе, якое было захапляльнае падарожжа ў набітых пад завязку і гаманкіх фурах, што трэсліся па прасёлачных дарогах.

Такім чынам, вандравалі цэлымі сем'ямі, звычайна з гуртом дзяцей, нярэдка з немаўлятамі (у цеснаце ды не ў крыўдзе).

У 20–30-х гадах мінулага стагоддзя балаголаў стала менець. Павялічвалася сетка чыгунак і шашэйных дарог, з'явіўся механічны транспарт. Але цалкам патрэба ў балаголах не адпала.

У Лунінцы гэтым відам дзейнасці займалася некалькі яўрэйскіх сямействаў. Найбольш вядомым быў Флат Абе. Ягоныя фуры вазілі тавары з Прыпяцкай прыстані каля Валянскіх мастоў да Лунінца і Баранавічаў, Ганцавічаў і Ляхавічаў, Лахвы і Мікашэвічаў. Вельмі часта, калі было шмат тавару, да балаголаў далучаліся іншыя ўладальнікі коней і фураў. Найчасцей на перавозку тавараў сваіх рабочых накіроўваў уладальнік асенізатарскага абозу Мулер Іцка.

(Пачатак у № 16)

## Развозчыкі пошты

Сёння мы звыкліся бачыць на вуліцах аўтамашыны, пафарбаваныя ў блакітны колер з белай паласой на кузаве. Гэтыя аўтамабілі развозяць пошту – дасягненне прагрэсу апошніх 50–60 гадоў. А напрыканцы XIX – пачатку XX стагоддзяў пошту развозілі коньмі спецыяльныя возчыкі. Развозка ад спецыяльнай паштовай канторы да вакзалу і ад паштовай канторы да навакольных вёсак, дзе былі паштовыя аддзяленні, за пэўны кошт аддавалася ў рукі прыватных асобаў, якія мелі коней.

На прадмет перавозкі пошты наладжваліся таргі, і права атрымліваў той прэтэндэнт, хто запрошваў найменшую суму (падпісваў кантракт). Доўгі час гэтым правам у нашым Лунінцы карыстаўся Гольцман, які меў некалькі коней. За працу ён ад дзяржавы атрымліваў 420 рублёў за год. Другі падрадчык – Мойша Дзятлавіцкі вазіў пошту па тракце Лунінец–Вулька Лунінецкая (1) – Лунін–Лобча–Парахонск (да 1917 года) (у Пінску многія гады перавозіў пошту ягоны брат Лейзэр Дзятлавіцкі).

Прафесія возчыка пошты знікла ў пачатку 20-х гадоў XX стагоддзя, калі з'явіліся паштовыя веласіпеды, матацыклы і аўтамабілі, на якіх і пачалі перавозіць пошту. Але вайна ўнесла свае карэктывы і ў «жыццё» гэтай спецыяльнасці. У 1944–1946 гадах на нейкі час перавозка пошты на канях аднавілася.

*Леў КОЛАСАЎ*

### Старажытныя модніцы




# Ці хораша ты, дзяўчыначка, прыбраная?

Шасцігранную разетачную пацерку, знойдзеную на Бярэсці, можна лёгка ўявіць у саставе трохпацеркавага скроневага кольца. Аднак мы можам уявіць яе і ў саставе дужкі «аграфа» – драцяной дужкі з надзетымі на яе трыма пацеркамі, якія складаюць у камплекце ачэлле – дзіўны па прыгажосці парадны жаночы галаўны ўбор гараджанкі, які з'явіўся ў Старажытнай Русі ў другой палове XII стагоддзя. Спачатку даследчыкі лічылі іх засцежкамі і далі такую назву – «аграф». З часам стала ясна, што падобныя дужкі не маглі быць засцежкамі, але назва захавалася за імі да гэтага часу.

Пацерка з Бярэсця, як і пацеркі скроневага кольца кіеўскага (1872 г.) клада, мае аднолькавую форму і памеры граняў (15х15 мм), арнаментаваны па ўсіх баках узорам, абнесеным акружнасцю. Але ў кіеўскай пацерцы ўзор у акружнасці складзены з трохвугольнікаў ілжывай зерні, на пацерцы з Бярэсця – гэта чатырохпялёсткавая кветка з радыяльна размешчанымі промнямі і круглай выпуклай кропкай ілжэзерні ў цэнтры. Выразныя выпукласці ілжывай зерні добра прыкметны ў куточках кожнай грані вырабу. Грані, у якіх ёсць адтуліны для дужкі, злёгку прыўзняты, утвараючы трапецыяпадобнае завяршэнне, якое падаўжае пацерку на 5 мм. Адтуліны маюць няроўныя, «гафрыраваныя» краі – вынік механічнага ўздзеяння ў час надання вырабу неабходнай формы.

Арнамент разетак і акружнасцяў складзены з дробных кропак ілжэзерні, куткі ж квадратаў кожнай грані пацеркі і цэнтр сяродкрыжоўя – буйнай ілжывай зерні.

Корпус пацеркі, адліты са сплаву на сярэбранай аснове, у падоўжаным накірунку перасякаюць чатыры ліцейныя швы – сведчанне ліцця «навыплюхванне» ў чатырохбаковай ліцейнай каменнай форме, што даказвае яе выраб ў 70–80 гадах XII – пачатку XIII стагоддзяў. Такая тэхніка атрымала развіццё менавіта ў гэты час.

Арнамент на старонках пацеркі па сваіх абрысах блізкі да кветкі з чатырох пялёсткаў. Падобная кветкавая разетка, накшталт зярнёным упрыгажэнням, была эмблемай сонечных багоў і з'яўлялася ўвасабленнем ідэі аб сувязі жыватворных сонечных промняў і шчодрага прарастання кветак і траў на зямлі.

## АЧЭЛЛЕ

Па-першае, гэта, як правіла, трохпацеркавая завушніца, выпрастаная і ператвораная ў «аграф». Канцы завушніц выпроствалі і закручвалі ў трубачкі. Прыкладам такіх «пераўтварэнняў» можа служыць старажытнаразанскі клад 1974 года, у якім прысутнічаюць і трохпацеркавыя скроневыя кольцы і дужкі «аграфаў», выкананыя ў адзіным дэкаратыўным стылі.

Пры складанні адзінага камплекта дужак «аграфаў» у ачэллі гараджанкі праз гэтыя трубачкі прапускаўся дрот, які мацаваў усю гэту дэкаратыўную канструкцыю да асновы валіка з тканіны на жорсткай аснове. Такія ажурныя дужкі аблямоўвалі ніжнюю частку галаўнога ўбору над ілбом. Рэканструяваць такі ўбор удалося па Вербаўскаму кладу (Галіцка-Валынскае княства), дзякуючы якому ўпершыню звязкі знойдзеных «аграфаў» атрымалі ў археалагічнай літаратуры 30-х гадоў XX стагоддзя «чільце», якое, у сваю чаргу, нагадвае тэрмін «чело» ў завяшчанні Івана Каліты дачцэ Фяцінні.

Поўны камплект пацеркавых паўкольцаў, схаваны ў 1237 годзе перад нашэсцем Батыя і знойдзены ў 1992 годзе ў старажытнаразанскім кладзе, даў магчымасць у поўнай меры рэканструяваць галаўны ўбор заможнай жанчыны. Гэта ўдаецца выключна рэдка. Рэканструкцыі параднага ўбору дапамагло тое, што ўсе складовыя элементы былі кампактна загорнуты ў матэрыю. Акрамя таго, 10 пацеркавых паўкольцаў злучаліся двума меднымі дратамі, якія , калі меркаваць па мацаванні, размяшчаліся вертыкальна і прыладжваліся да дзвюх краявых пласцін. Канцавыя пласціны знаходзіліся над вушамі, каля скроняў. Увесь металічны набор, такім чынам, складаўся з 12 канструктыўных элементаў ачэлля, якое аблямоўвала галаўны ўбор над ілбом. Нам ужо вядома, што лік 12 належыць да найбольш ужывальных у міфалогіі лікаў – 12 месяцаў года, 12 знакаў задыяка.



Падобныя вырабы, мяркуючы па старажытнарускіх кладах, выкарыстоўваліся ў многіх гарадах Старажытнай Русі. Знаходка з Бярэсця дапаможа нам уявіць вобраз гараджанкі ў гэтым непаўторным, бліскучым уборы.

Літаратура па археалогіі не дае ўяўлення аб форме галаўнога ўбору, у склад якога ўваходзіла даная катэгорыя старажытнарускіх упрыгажэнняў. Не вядома і старажытная назва такіх убораў з «аграфамі». Не ўдалося знайсці адказаў і ў помніках выяўленчага мастацтва Старажытнай Русі.

Для нас, напрыклад, вялікую цікавасць уяўляе выява жаночай галоўкі на цэнтральным шчытку колта старажытнаразанскага клада (1992 г.), выкананай перагародачнай эмаллю. Галава жанчыны ўпрыгожана ўзорным какошнікам з трохвугольным верхам. Ён мог адносіцца да шлюбных вянцоў, выкананых па заказе да вясельнага галаўнога ўбору. Выгнутыя дужкі, змацаваныя паміж сабой дроцікамі, мацаваліся да падобнага складанага кічкападобнага ўбору – какошніка ці «кичке». Падобныя галаўныя ўборы – каруны вядомы па ўзорах, якія захаваліся на рускай поўначы да пачатку XIX стагоддзя. Іх форма дазваляе прадбачыць наяўнасць у старажытнасці шлюбных вянцоў, для якіх была характэрна прысутнасць дужак у верхняй частцы вянца.

Тэрмін «каруна» адзначаецца ў старажытнарускіх пісьмовых помніках XIV стагоддзя і з'яўляецца лацінскім запазычаннем. У больш ранні час тэрміну «каруна» адпавядаў агульнаславянскі тэрмін «вянец», а ў першасным значэнні «вянок» – гірлянда з кветак. Вянок з кветак займаў асобае месца ў вясельнай абраднасці. Па аналогіі з квяцістай вясной нявесты ўпрыгожвалі валасы гірляндамі з кветак. Вянок быў і сімвалам паўналецця, і сімвалам нявіннасці, выконваючы ролю вясельнага вянца. «Завіванне вянка», варажба на вянках аб жаніхах у час вясенніх святкаванняў мелі шырокае распаўсюджванне сярод славян. Вянок з кветак бытаваў аж да XX стагоддзя ў якасці шлюбнага вянца ў рускіх, беларусаў і ўкраінцаў.

*А. РАСІНСКАЯ,*
*загадчык аддзела Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея*

(Заканчэнне будзе)





*Адным з найвыдатнейшых помнікаў архітэктуры Беларусі XVI–XIX ст. з'яўляецца Мірскі замак, які знаходзіцца ў г.п. Мір Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці. Фарміраванне гэтага помніка праходзіла пад уплывам готыкі, рэнесанса і барока. У 1995 годзе замак адзначыў свой 500-гадовы юбілей ад пачатку будаўніцтва. ЮНЕСКА ўнесла яго ў спіс пэрлінаў сусветнага значэння. Штогод тысячы турыстаў і вандроўнікаў наведваюць замак. Ён прыцягвае ўвагу не толькі як помнік гісторыі і архітэктуры. Замак – найвялікшая каштоўнасць, з якой непарыўна звязаны складаны гістарычны лёс нашай Радзімы, якой ганарыцца кожны беларус.*

# Археалагічныя даследаванні абарончага вала Мірскага замка ў 2003 годзе



На тэрыторыі помніка на працягу 15 гадоў ідуць рэстаўрацыйныя работы. У 2003 годзе яны фінансаваліся Нацыянальным мастацкім музеем Рэспублікі Беларусь пры арганізацыйным удзеле Беларускага камітэта Міжнароднай рады па помніках і мясцінах. Архітэктура Мірскага замка і культурны пласт прылягаючай да яго тэрыторыі даследаваліся беларускімі навукоўцамі пачынаючы з 60-х гадоў XX ст. Апошнія археалагічныя раскопкі на помніку праводзіліся ў 1991 годзе на месцы размяшчэння перадбрам'я, дзе быў закладзены раскоп агульнай плошчай 300 кв.метраў. Абагульняючая і падрабязная інфармацыя па гісторыі археалагічнага і архітэктурнага даследаванняў гэтага помніка надрукавана ў манаграфіі: *Здановіч Н.І., Краўцэвіч А.К., Трусаў А.А.* "Матэрыяльная культура Міра і Мірскага замка".

У працэсе рэстаўрацыі на тэрыторыі помніка архітэктуры XVI–XIX ст. "Мірскі замак" запланавана ўзвядзенне ў 2004 годзе гаспадарчых пабудоў. Насып вала абкружае мураваны замак і ў плане нагадвае літару "П", павернутую верхам да поўначы. З паўднёвага боку вал не насыпаны. Тут знаходзіцца возера. Гаспадарчыя пабудовы павінны размясціцца на абарончым вале з усходняга боку ад замка.

У ліпені 2003 года быў закладзены раскоп на вале агульнай плошчай 840 кв. метраў, які перараzаў яго ў цэнтральнай частцы. Насып вала даследаваўся ад верхняга беражку да мацерыковай паверхні.

На плошчу раскопу прыпадалі шурфы, закладзеныя ў 1983 і 1984 гадах з мэтай даследавання стратыграфіі і памераў гэтай часткі вала. У 2002 годзе падчас праведзенага "добраўпарадкавання" тэрыторыі горада ўздоўж падножжа схілу, з палявога боку вала, пракладзена асфальтаваная дарога, якая падрэзала паверхню схілу, змяніўшы першапачатковую канфігурацыю вала.

Даследаваннямі ў 2003 годзе былі вызначаны культурныя адкладанні насыпу вала, якія адрозніваліся колерам і налічвалі шэсць слаёў: дзірван з раслінным грунтам шэрага колеру, гліняны пласт "замка", пясок, суглінак, светлы і светла-шэры.

Паверхня насыпу вала пакрыта дзірваном, а пад ім слой расліннага грунту шэрага колеру. Агульная іх таўшчыня складае 20–25 см. У шэрым слаі ў асноўным траплялiся рэчы XIX–XX ст.: цэгла і шкло. Знойдзена некалькі прадметаў ранейшага часу, якія датуюцца XVII–XVIII ст.

Гліняны слой, зафіксаваны пад шэрай праслойкай, замацоўваў ("замыкаў") нетрывалую паверхню насыпанага вала, засцерагаў насып ад разбураючага ўздзеяння атмасферных ападкаў. Магутнасць глінянага "замка" ў розных частках насыпу неаднолькавая. Па схілах яго таўшчыня 20–25 см. У цэнтральнай частцы таўшчыня глінянага слою складае 25–30 см.

Пад гліняным слоем знаходзіцца пясчаны слой з дамешкамі суглінку. Пясчаны насып і суглінак з'яўляюцца асновай насыпу. Па восі вала яго магутнасць складае 3,7–3,8 м. У паўднёвай частцы раскопу, бліжэй да ўнутранага боку, пясчаная маса перамяжаецца з суглінкам. Суглінак тут займае значную частку масіву насыпу. У папярэчным разрэзе насып нагадвае паўсферу, канфігурацыю якой фарміруе пясчана-суглiністы масіў.

У паўднёвай частцы раскопу пад гліняным "замком" зафіксаваны светлы слой, у якім выяўлена значная колькасць матэрыялаў XVII–XVIII ст. Найбольшая магутнасць светлага слою складае 1,2–1,6 м у цэнтральнай частцы вала і прасціраецца ў палявы бок.

Пясчаная маса вала насыпана на старажытную паверхню культурнага пласта светла-шэрага колеру, які фарміраваўся на працягу многіх стагоддзяў да пачатку будаўніцтва замка. Гэты слой захаваўся пад масівам насыпу не паўсюдна. У паўночнай частцы раскопу светла-шэры слой займае большую частку асновы вала. Магутнасць гэтага слою 20–25 см. Бліжэй да палявога краю светла-шэры слой выкліньваецца. У паўднёвай частцы светла-шэры слой перарываецца.

У светла-шэрым слоі знаходкі адсутнічалі. Толькі ў верхняй частцы гэтага слою знойдзена манета.




Люлька і свістулька з раскопак

Пад светла-шэрым слоем знаходзіцца мацярык з пяску. Ён фіксуецца на глыбінях 3,96–4,1 м ад верхняга беражку вала.

У выніку даследаванняў абарончага вала выяўлены яго канфігурацыя і склад, што дае магчымасць высвятлення прыёмаў яго ўзвядзення. Пясчана-суглiністы насып фарміруе вал. Верхні слой гліны (20–25 см) фіксаваў, "замыкаў", паверхню вала. Вышыня насыпу па восі вала складае 3,96–4,1 м. Шырыня падэшвы 22 м у паўночнай частцы і 18 м у паўднёвай. Падэшва напольнай часткі вала заканчвалася па краі лагчыны. Вал насыпаны на 20–40-сантыметровым культурным пласце светла-шэрага колеру старажытнай дзённай паверхні. Схілы насыпу з унутранага і вонкавага бакоў вала маюць аднолькавую круцізну. Па вяршыні вала, уздоўж яго восі, паверхня набліжана да пляскатай формы шырынёй да 3–4 метраў.

Большая частка знаходак выяўлена ў паўднёвай палове раскопу, якія трапілі ў вал падчас рэканструкцыі палаца.

Рэшткі донцаў, сценак і венцаў паліванага і тэракотавага начыння XVII ст.: талеркі, міскі, гаршкі, патэльні знаходзіліся разам з будаўнічым матэрыялам.

Найбольшую колькасць будаўнічага матэрыялу складалі бітая цэгла-пальчатка і дахоўка пляскатай і хвалістай формы. Цэгла-пальчатка выяўлена ў фрагментах. Яна адпавядала цэгле палаца памерамі 28–29х х12–13х5 см.

Плоская дахоўка чырвонага колеру з адным закругленым бокам і трохвугольным або акруглым мацавальным выступам існавала ў XVI ст. Даўжыня яе 42 см, шырыня – 16–17 см, таўшчыня – 1,5–2,8 см. На адной з шырокіх паверхняў можна ўбачыць слабыя баразны – сляды пальцаў майстра, што выбіраў рэшткі гліны з драўлянай формы. Тут трапляліся кавалкі гатычнай канькавай чарапіцы, якая датуецца пачаткам – першай паловай XVI ст. Ёю накрывалі стромкі верх замкавых муроў. Яна мела доўгі (да 9 см) мацавальны выступ, які выконваў у асноўным дэкаратыўную функцыю – нагадваў галаву і доўгую шыю нейкай птушкі.

З выяўленых фрагментаў кафлі характэрны матывы расліннага, геаметрычнага і геральдычнага характару. Найбольшая частка фрагментаў кафлі зялёнапаліванай, рамкавай, з раслінным арнаментам. Асноўны матыў – складаны малюнак з лісцяў, кветак і галінак. Частка сценнай рамкавай кафлі набывае новы кампазіцыйны матыў. Поле падзяляецца на трохкутнікі патройнымі лініямі альбо сеткай з ліній, размешчаных у прамежку падвойных ліній. У падзеленых на трохкутнікі сегментах поля кафлі ствараецца кампазіцыя, у якой размеркаванне расліннага арнаменту падпарадкоўваецца геаметрычнаму парадку. Гэта спалучэнне строгай сістэмы геаметрычнага арнаменту і адвольнай кампазіцыі расліннага надае кафлі новую матывацыю, набліжаную да дывановай. Частка кафлі з чатырохчленнай сіметрыяй квадратаў у квадраце з кропкай ў цэнтры. Выяўлены фрагменты сценнай рамкавай паліхромнай кафлі з раслінным арнаментам. З 9 паліхромных фрагментаў: 7 – з раслінным арнаментам і 2 – з геральдычным. Па зялёным полі роспіс рэльефа белым ангобам. Такая кафля вывучана падчас папярэдніх раскопак. Геральдычная рамкавая кафля з выявай радавога знака Радзівілаў – арол з распрасцёртымі крыламі. Такой кафлі выяўлена: 25 зялёнапаліваных экземпляраў, 11 тэракотавых і 2 паліхромных. У інвентары замка неаднаразова ўзгадваецца геральдычная кафля печаў: "... печ новая паліваная з пястракаватай кафлі, з арламі, з цагляным дымаходам". Фрагменты зялёнапаліванай кафлі з выявай хімеры вакол "дрэва жыцця" трапляліся таксама і падчас раскопак папярэднімі даследчыкамі гэтага помніка архітэктуры.

У фрагментах гзымсавай кафлі фіксуеццца малюнак з рамбавідных секцый, запоўненых кропкамі.

Выяўлены два фрагменты тытунёвых люлек. Люлька з белай гліны, пакрытая цёмна-карычневай палівай. Ёмістасць люлькі, куды набіваецца тытунь, нагадвае мініяцюрны збан. Па тулаве нанесены вертыкальныя баразёнкі, прамежак паміж якімі падкрэслены штрыхамі. Баразёнкі тулава аддзелены ад горла кантам. Горла высокае з адхіленым і гарызантальна зрэзаным венчыкам. Донца плоскае. Па нізе донца і дзяржання цыбука прасочваецца ледзь заўважная і загладжаная майстрам палоска – месца стыкоўкі дзвюх палавінак нарыхтоўкі.

Фрагмент адной тытунёвай люлькі выраблены з белай гліны, пакрытай жоўтай палівай з зялёнай размалёўкай.

Фрагмент цацкі-свістулькі "коніка" выраблены з белай гліны. Пакрыты светла-карычневай палівай. Захаваліся пярэднія слупападобныя ногі. Папярэднімі даследчыкамі таксама знаходзіліся такія цацкі ў выглядзе конікаў і вершнікаў.

Сярод рэшткаў шкляннога матэрыялу, які сустракаўся найчасцей, неабходна адзначыць аконнае шкло. У асноўным бітае цёмнае і светлае шкло з адценнямі зялёнага колеру таўшчынёй 0,7–2,3 мм. Сустракаліся фрагменты, якія мелі прамы вугал. Выяўлена 11 экземпляраў. Адзін у выглядзе правільнага, няпоўнага паўкруга дыяметрам 7,2 мм і таўшчынёй 1,7 мм, светла-зялёнага колеру. Па паўкрузе край апрацаваны, а прамая частка – не апрацаваны край нарыхтоўкі. Шкло магло знаходзіцца ў шыбеніцы, якая складвалася з розных фігурных элементаў.

Для замацавання аконнага шкла выкарыстоўваўся каляровы метал сплаву, у які мог уваходзіць свінец. Знойдзены фрагмент свінцовай нарыхтоўкі талеркападобнай формы з высечаным сегментам. Дыяметр нарыхтоўкі 14 см, таўшчыня 2–2,5 см. Магчыма, расплаўлены свінец заліваўся ў спецыяльныя формы, блізкія да аб'ёму невялікай патэльні. У інвентары замка за 1688 год, складзеным мірскім гараднічым Казімірам Міхалам Шульцам 15 кастрычніка 1688 года, апісваюцца свінцовыя абкладкі вокнаў.

Знойдзена 6 трохшыпных абутковых падковак, датуемых XVI–XVII ст. Чатыры падкоўкі выяўлены ў арэале найбольшага скаплення будаўнічага смецця.

Час узвядзення абарончага вала датуецца манетамі. Манета – солід 1613 г., Сігізмунд III Ваза (1587–1632) знойдзена на глыбіні 3,6 м ад верхняга беражка вала ў светла-шэрым слаі на мяжы са светлым. Магчыма, гэтая манета трапіла туды падчас энергічнай будаўнічай дзейнасці Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі (1546–1616), да якога перайшоў Мір разам з замкам і графскім тытулам у 1569 г., згодна з завяшчаннем Юрыя Ілініча (1535–1569?), былога заснавальніка і ўладальніка замка. Гэтая манета прадатавала верагодны час пачатку ўзвядзення гэтай часткі вала.

Манета – солід 1628 г., Густаў II Адольф Ваза (1621–1632), знойдзеная ў шэрым слаі на глыбіні 28 см ад дзённай паверхні, фіксуе перыяд ўжо існаваўшай паверхні вала.

У абарончы вал падчас рэканструкцыі палаца і аднаўлення замка, завершаных да 1690 г. пры Каралі Станіславе Радзівіле, трапіла манета – солід 1665 г., Ян II Казімір Ваза (1649–1668), знойдзеная ў светлым слаі паўднёвай часткі раскопа, якраз там, дзе знаходзілася шмат бітай цэглы, дахоўкі, кафлі і начыння.

**Пятро РУСАЎ**






Сенакосная пара

## Жнівень

4 – **Радзівіл Аляксандр Людвік** (1594, Нясвіж – 1654), дзяржаўны дзеяч ВКЛ – 410 гадоў з дня нараджэння.

5 – **Рэпін Ілья Яфімавіч** (1844–1930), расійскі мастак, педагог, які пэўны час жыў і працаваў у Здраўнёва (Віцеб. р-н) – 160 гадоў з дня нараджэння.

5 – **Чырыкаў Яўген Мікалаевіч** (1864–1932), расійскі пісьменнік, адзін з заснавальнікаў Мінскага таварыства аматараў прыгожых мастацтваў – 140 гадоў з дня нараджэння.

6 – **Хлябцэвіч Яўген Іванавіч** (1884, Слонім. р-н ці Бельс. пав. – 1953), беларускі і расійскі бібліятэказнавец, бібліёграф, літаратуразнавец, дзеяч беларускага культурна-грамадскага руху пач. XX ст. – 120 гадоў з дня нараджэння.

10 – **Ставер Алесь** (Аляксандр Сяргеевіч; 1929, Докш. р-н – 1995), паэт – 75 гадоў з дня нараджэння.

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**Ашмянская друкарня.** Была заснавана ў маёнтку Ашмяны, непадалёку ад вёскі Мураваная Ашмянка Ашмянскага раёна каля 1615 года на сродкі маршалка Вялікага княства Літоўскага Крыштофа Дарагастайскага (1562–1615), які ўдзельнічаў у Лівонскай вайне і вайне Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600–1629 гадоў, кіраваў абаронай Рыгі (1601), вызначыўся ў бітве пад Какенгаўзенам, быў аўтарам працы па анатоміі і фізіялогіі каня «Гіпіка» (1603, у XVII–XVIII ст. перавыдавалася 7 разоў. Гэтая праца перакладзена на сучасную беларускую мову).

У 1615 годзе Ашмянская друкарня выдала 6 палемічных кніг тамтутэйшага прапаведніка-евангеліка В. Салінарыуса «Цэнзура», накіраваных супраць выданняў ракаўскіх сацыніян. У кнігах выкарыстаны паліграфічныя матэрыялы любчанскай друкарні, таму некаторыя даследчыкі лічаць, што «Цэнзура» была надрукавана Пятром Кмітай (выдавец і паэт, узначальваў Любчанскую друкарню з 1612 да канца 1620-х). Іншыя выданні не выяўлены.

**Ашмянскі краязнаўчы музей** імя Ф. Багушэвіча. Заснаваны ў 1952 годзе, пачаў працаваць з наведвальнікамі ў кастрычніку 1955-га. Мае некалькі аддзелаў, у экспазіцыі – дакументы і фотаздымкі па гісторыі Ашмяншчыны, прылады працы, адзенне, прадметы побыту, вырабы народных майстроў. Адлюстравана жыццё і дзейнасць, літаратурная творчасць беларускага пісьменніка Францішка Багушэвіча, ёсць яго асабістыя рэчы (трумо, два скураныя крэслы, стол, ваза, попельніца), макет дома ў Кушлянах, дзе жыў творца, выданні твораў, фотаздымкі блізкіх і родных, фотакопіі дакументаў.

**Ашмяны** – горад, цэнтр Ашмянскага раёна Гродзенскай вобласці на рацэ Ашмянка. За 22 км на паўночны ўсход ад Гродна, 17 км ад чыгуначнай станцыі Ашмяны на лініі Маладзечна–Вільня.

Пісьмова ўпамінаецца з 1340-х гадоў як горад у складзе ВКЛ. Узнік як княжацкі замак, вакол якога развіўся рамесна-гандлёвы горад. У 1384–1385 гадах Ашмяны вытрымалі крыжацкую асаду. У XIV ст. пабудаваны касцёл, а ў 1484 годзе калегіята – касцёл, пры якім быў збор канонікаў. У пачатку XVI ст. горад перанеслі на новае месца (утварылася паселішча Новыя Ашмяны), старажытная частка (Старыя Ашмяны) у 1505 годзе аддадзена францысканцам (пабудаваны касцёл і драўляны кляштар). У XVI ст. горад пабольшаў, атрымаў магдэбургскае права, стаў павятовым цэнтрам Віленскага ваяводства. Горад вельмі пацярпеў у часы войнаў XVI – 1-й чвэрці XVIII ст. У 2-й палове XVI ст. пабудаваны кальвінісцкі збор (не збярогся), у 1667 годзе – Троіцкі касцёл (згарэў, адноўлены ў 1797) і драўляны кляштар дамініканцаў (знесены ў 1850). Ашмяны двойчы акупоўвалі царскія войскі (1519 і 1655), у Паўночную вайну 1700–1721 гадоў – шведы. У 1791 годзе ў Ашмянах было 852 жыхары, 142 дамы. Прывілей 1792 года пацвердзіў статут «вольнага» горада, вызначанага для правядзення каралеўскіх судоў і сеймікаў, ліквідаваў прыватныя юрыдыкі і надаў герб з выявамі чашы і шчыта. У час паўстання 1794 года тут размяшчаўся штаб паўстанцкай арміі Я. Ясінскага, сфарміраваны атрад М.К. Агінскага. Паводле плана 1798 года горад размяшчаўся на левым беразе ракі Ашмянка. На тэрыторыі былога замка стаяў двор старосты, злучаны вуліцай Замкавай з галоўнай плошчай, дзе знаходзіліся ратуша, крамы, карчма, паблізу – паштовы двор. Ад галоўнай плошчы разыходзілася некалькі вуліц-дарог. У заходняй частцы горада, на вуліцы Віленскай, існавала гандлёвая плошча.

У вайну 1812 года горад спалены. У 1845 годзе зацверджаны другі герб горада – выява мядзведзя на блакітным фоне. З 1811 да 1914 года насельнікаў пабольшала з 1830 да 8200 чалавек. У 1914 годзе працавалі 11 дробных прадпрыемстваў (269 рабочых) – гарбарны, вінакурны, мінеральных водаў, медаварны, соладаварны заводы, тытунёвая фабрыка, млын і інш. У верасні 1915 – студзені 1919 года акупаваны кайзераўскімі, у маі 1919 – ліпені 1920-га і з кастрычніка 1920 года – польскімі войскамі. У 1919–1939 гадах – у складзе Польшчы, цэнтр павета. З канца 1939 года ў складзе БССР. З 1940 года – цэнтр раёна Віленскай, з 1944 года – Гродзенскай абласцей. З чэрвеня 1941 да 7 ліпеня 1944 года акупаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Галоўная частка горада з гістарычным цэнтрам размешчана ўздоўж левага берага ракі Ашмянка. Асноўная вуліца перасякае горад з захаду на ўсход, на ёй знаходзяцца адміністрацыйныя, культурна-бытавыя і гаспадарчыя будынкі. У заходняй і ўсходняй частках з першай паловы 1980-х пачалі забудоўвацца мікрараёны. У правабярэжнай частцы – у асноўным малапавярховыя індывідуальныя забудовы. Дзейнічаюць прадпрыемствы харчовай, лёгкай прамысловасці, краязнаўчы музей імя Ф. Багушэвіча, іншыя культурныя і навучальныя ўстановы. Збераглiся касцёл XVIII ст., царква і карчма XIX ст., жылыя будынкі канца XIX – пачатку XX ст. з элементамі стыляў несапраўднай готыкі і «мадэрн».

**Ад рэдакцыі.** Заканчваючы публікацыю «Малой краязнаўчай энцыклапедыі» на літару «А», хочацца адзначыць некалькі момантаў. На нядаўняй сустрэчы супрацоўнікаў нашай газеты з бібліятэкарамі, настаўнікамі Пухавіцкага, Віцебскага, Карэліцкага і Навагрудскага раёнаў нам было прыемна пачуць, што яны часта выкарыстоўваюць у сваёй паўсядзённай працы матэрыялы з гэтай рубрыкі – у прыватнасці, пры правядзенні розных выстаў, літвечарын з рознымі конкурсамі, віктарынамі і г.д. Адпаведна, мы, паважаныя чытачы, чакаем ад вас і па гэтай рубрыцы заўваг, удакладненняў, прапаноў – асабліва свайго, краязнаўчага зместу. І нават невялікіх, але змястоўных эсэ, артыкулаў. Як вось, скажам, пра сучасныя Ашмяны. Пра ўсё духоўнае, што ёсць там сёння. Бясспрэчна, нямала і дасведчаных, зацікаўленых людзей і ў іншых гарадах ды вёсках, і гэтыя энтузіясты могуць нам, усім чытачам газеты з розных куткоў Беларусі больш і шырэй расказаць пра мінулае і сённяшняе сваіх мясцін. Тут не варта чакаць, калі «алфавітная ўвага» надыдзе і да іх.

І яшчэ. Калі помніце, у адным з ранейшых нумароў мы зазначалі, што свядома апускаем даведку «Адзенне», жадаючы не толькі даць па ёй пэўныя звесткі з даўніх часоў па сённяшні дзень, але і багата праілюстраваць яе. Рыхтуемся гэтую даведку разгарнуць у асобную шырокую публікацыю.

## Ад дзядзькі Антося




***Вось ужо спяшаецца жнівень. Малазразумелае сёлета лета – зрэшты, як май (травень), так і чэрвень ды жнівень. Лепш сказаць, былі не зусім прыемныя халодныя ночы. А апошнія два названыя месяцы – гэта ж нашы, беларускія «залатыя» поры года, калі ўсё расце і наліваецца, каб блiснуць ім, золатам ураджаю, у жніўні (збажына) і ў верасні (бульба, морква, буракі і інш.).***

Як у ліпені, так звычайна і ў першай палове жніўня той жа клопат у агародзе і на полі – паліў, падмацунак-падкормка патрэбных раслін і барацьба з пустазеллем. Увільгатняць зямлю найлепш увечар альбо раненька, калі сонца ўжо ці яшчэ слабое, не выпарвае вільгаць. Пасля паліву агуркоў, памідораў цёплай вадою (халаднаватай, з крана – можна асвяжыць капусту, буракі, бульбу, цыбулю, часнок, бульбу, а моркву так паліваць асабіста я не раю), глебу там трэба падрыхліць: не будзе хуткага выпарвання. Што і колькі разоў паліваць? Сёлета на гэтае пытанне хуткага адказу не дасі з-за тых жа халодных начэй. Ды і характар глебы трэба ўлічваць. Звычайна агародніну на пясках і супесках варта паліваць праз 2–3 дні, а на суглінках – праз 4–6 дзён з разліку два-тры вядры на адзін квадратны метр. Добра, калі вада пранікне на глыбіню 10–15 см.

Не смейцеся, але заўважыў: некаторыя ўжо і сталыя людзі не навучыліся... паліваць. Прыбяжыць праз тыдзень да агарода ці поля – шланг альбо лейку ў рукі і давай ліць ваду. А яна – набакі з град: яны сухія. Дык вось, варта не спяшацца гэтак, лепш спачатку сухую зямлю акрапіць, вільгаць прамочыць толькі паверхню, але пасля будзе затрымліваць ваду, не даваць ёй расцякацца, плысці на разоры.

Што да асобных раслін, то яны па-рознаму патрабавальныя да вады. Падрослая бульба яшчэ патрабуе яе, калі цвіце (тады клубні будуць большыя); агуркі вельмі любяць пастаянную цёплую вільгаць і парнасць; капуста шмат патрабуе паліву, калі прырастаецца і пачынае фармаваць качаны; цыбуля і часнок, калі ў іх пачалі круглець галоўкі, наадварот, падабаюць падсохлую глебу; буракі, як і морква, цярплівыя да сушыні, але і ім зрэдзь пасля спякотных дзён вада не зашкодзіць; памідоры спачатку трэба паліваць не часта, але вось калі пачалі завязвацца новыя плады, то яны прагнуць вільгаці. Пры яе недахопе або адсутнасці могуць змусіць ападаць кветкі альбо трэскацца плады.

### Яшчэ пра памідоры

Не толькі ў парніку, але і на адкрытым месцы яны могуць пладаносіць яшчэ і ў цёплым кастрычніку. Адпаведна, трэба падбаць пра іх і дзеля гэтага. І не толькі праз умераныя паліў ды падсілкаванне (найперш суперфасфатам з разліку каля дзвюх лыжак на квадратны метр). У жніўні неабходна прадоўжыць аберагаць іх ад розных хвароб – абрываць жоўтае лісце, відаць, ужо мала абліваць вадзяністым малаком, а лепш (раз у тыдзень) растворам хлоракісі медзі, медна-мыльнай эмульсіяй (на вядро вады 20 г меднага купарвасу і 200 г мыла) ці 1-працэнтным растворам бардоскі. Апырскваць у сухое, пажадана пахмурнае надвор'е раніцай альбо вечарам. Нідзе не дзенешся, бывае, каб засцерагчы памідоры ад фітафторы і ранняй пагібелі, не пазбегнуць і апрацоўкі рознымі хімічнымі прэпаратамі, якіх у крамах удосталь.

Сачыце і за фармаваннем кветак ды адросткаў паміж пазухай сцябла і галінак. Часамі, калі куст аслаблены і дрэннае надвор'е, новае, што не паспее завязацца, варта і абарваць.

### Пра тое, чаго сам не рабіў

Вычытаў: калі жадаеш мець буйныя яблыкі і грушы, то сам паспрыяй гэтаму. Як? Зусім проста. На завязь (тую, што менавіта цяпер) начапі мяшочкі з глянцаванай паперы: для грушы – даўжыня 10 см, шырыня – 12 см, для яблыкаў – адпаведна 14 і 19 см. Зазначаюць, што такія плады не будуць чарвівыя, вырастуць у два разы большыя, будуць чысценькія, гладкія. За 2–3 тыдні да таго, як плод сарваць, трэба паперу з яго зняць. Паспрабуйце, набярыцеся цярпення рабіць гэта, калі ў вас садавіны шмат.

Зрэшты, усё можа быць і так. Мая жонка, помню, некалі садзіла гладыёлусы. Паколькі ў іх кветка спачатку расцвітае ўнізе, а верх доўга не распускаецца, дык яна, мая Антосіха, ужо расцвілае абгортвала чорнай паперай і не здымала яе да таго часу, пакуль не расцвітаў верх. Забірала з расліны чорную паперыну – уся кветка была пышная і прыгожая.



Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары дапісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 22. 07. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330 ад 27. 02. 2004 г.)
Заказ 1113.
Тыраж 1100.